+тэлепраграма

№ 33 (295) 6 верасьня 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА

вайсковая слава — прыватная справа



## ЧАМУ ЗАГІНУЎ "КУРСК"

антыдзяржаўная таямніца

# Мілы, культурны, рафінаваны

**Я люблю набываць кнігі непасрэдна ў аўтараў, заадно беручы аўтограф. Гэта дае прыемнае адчуваньне далучанасьці да айчыннага літаратурнага працэсу. Уведаўшы, што мой стары і цікавы знаёмец Зьміцер Бартосік выпусьціў кнігу дый яшчэ ажаніўся, я пастанавіла зь ім сустрэцца. А каб багемней было, рандэву прызначылі ў Траецкім, ля ног Язэпа Драздовіча. Узяўшы па куфлі "Аліварыі" ў той самай кавярні, дзе Дамарацкі апытвае творчых людцоў, я завяла са Зьмітром гутарку, што называецца, *ab ovo*. Што ты за фрукт, Зьміцер?**




АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**Зьміцер Бартосік:** Мама мая — расейка, чыстая, карэнная. Я па маці ніжагародзец.мо ў 10-м ці 15-м калене. Там ёсьць вёска Канстанцінава, адкуль мой род. Так што і сормаўскія работнікі, і, ня выключана, жыхары тае начлежкі, дзе Горкі знайшоў пэрсанажаў п'есы "На дне", — мая радня. Старая начлежка дагэтуль стаіць у Ніжнім Ноўгарадзе, і, калі я праходжу ля яе, маё сэрца ёкае. У маім родзе з боку маці былі і басякі, і заможныя купцы: купец Бяляеў, вышэйшай гільдыі, уладальнік трох бандарных радоў на славутым ніжагародзкім кірмашы, дэпутат гарадзкой думы, уладальнік трох велічэзных даходных дамоў у Ніжнім Ноўгарадзе. Яны і дагэтуль стаяць.

**"НН": Ня хочаш запатрабаваць іх назад?**

Працяг на старонцы 10.



# Інтэграцыйная інэрцыя

## *Нацбанк ухваліў праграму пераходу на расейскі рубель*

**2 верасьня Нацыянальны банк ухваліў канцэпцыю пераходу на расейскі рубель у якасьці грашовай адзінкі "саюзнай дзяржавы". Далейшы лёс гэтага праекту будзе вырашаць беларуская частка сумеснай працоўнай групы па стварэньні адзінага эмісійнага цэнтру саюзнай дзяржавы.**

Узначальвае яе старшыня праўленьня Нацбанку Пятро Пракаповіч. Потым беларуская частка павінна ўзгадніць свае прапановы з расейскай і аддаць іх да 1 лістапада на разгляд "саюзнага" саўміну. Інтрыга ў тым, што панятак "саюзная дзяржава" апошнім часам зрабіўся зусім размытым: Пуцін кажа пра інтэграцыю Беларусі ў РФ па частках, а Лукашэнка марыць пра адзіную дзяржаву зь дзьвюх незалежных. Паводзіны Нацбанку ў такіх умовах — гэта рух па інэрцыі. Чыноўнікі ніжэйшага рангу ня вельмі зважаюць на зьмены ў адносінах паміж Лукашэнкам і Пуціным. Бюракратычная машына інтэграцыі запушчаная і працуе незалежна ад іхных заяваў. У гэтым хаваецца пэўная небясьпека для беларускага сувэрэнітэту.

Ва ўпраўленьні інфармацыі Нацбанку пацьвердзілі, што канцэпцыя ўхваленая. Падкрэсьлілі: усё ідзе ў адпаведнасьці з саюзнай дамовай. На пытаньне, як гэта стасуецца з апошнімі заявамі Лукашэнкі й Пуціна, не адказалі нічога.

Камэнтуе прафэсар **Станіслаў Багданкевіч**, былы старшыня Нацбанку:

— Выпрацоўка канцэпцыі пераходу на расейскі рубель — гэта не самаўпраўства Нацбанку. Пракаповіч выконвае тое, што падпісаў Лукашэнка: Беларусь пераходзіць на валюту іншай дзяржавы. Калі проста ўвядуць расейскі рубель, дык ні пра які агульны эмісійны цэнтар ня можа быць размовы. Каму будзе тады патрэбна ствараць яго ды прыдумляць нейкую іншую валюту, калі ўся Беларусь будзе карыстацца расейскім рублём? Дарэчы, калі глядзець з пазыцыяў Расеі, дык некаторыя патрабаваньні досыць справядлівыя: Нацбанк ня мае права выдзяляць крэдыты беларускаму ўраду, на рынку каштоўных папераў ён можа працаваць толькі ў межах лімітаў, выстаўленых Цэнтрабанкам Расеі, павінен складаць Расеі справаздачы — гэта натуральна, калі мы пяройдзем на расейскі рубель. Нацбанк тады аўтаматычна ператвараецца ў філіял цэнтрабанку — накшталт філіяў у Татарстане ці Башкірыі.




Камэнтуе **Віталь Сіліцкі**, выкладчык паліталёгіі Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту:

— Гэтая "адзіная валюта" цягнецца ўжо дзесяць год. Тое, што адбываецца, трэба разглядаць не як валютнае пытаньне, а як пытаньне ўлады. Гэта інэрцыя. Стварэньне ілюзіі актыўнага бегу на месцы. Падобна да таго, як у нацыянальным сходзе абмяркоўваюць законапраект пра выбары ў саюзны парлямэнт, хоць самі ня ведаюць, ці будзе ён калі створаны. Нікому не патрэбнае рашэньне, зь якога нічога ня будзе. А вось чаму зьмест канцэпцыі хаваюць у тайне — сказаць цяжка.

**Алесь Кудрыцкі**

**Кажуць, недзяржаўныя СМІ ў Беларусі перажываюць крызыс. Закрываюцца газэты — штук пяць за лета. Толькі крызыс ня ў гэтым. На зьмену закрытым ці адабраным прыходзяць новыя — штук дзесяць. Толькі новыя выданьні амаль спрэс расейскамоўныя. І спрэс тыражуюць новую ідэалягічную дактрыну: "пратэстны электарат Лукашэнкі ператвараецца ў электарат інтэграцыйны". "Здравствуйте, господа", — як некалі пачынаў свае перадачы на радыё А.Зімоўскі.**

# “Тамбовский демократ”

Цяпер апазыцыйным у нас будзе ўсё, што расейскае, прапуцінскае, “інтэграцыйнае”. А як інакш, калі варта табе прамовіць “незалежнасьць” — і адразу трапляеш у варожы сьпіс разам з тым самым Зімоўскім, Якубовічам — словам, у пасобнікі акупацыйнага, прынамсі антыдэмакратычнага рэжыму. Вось і падумалася мне, што для чысьціні апазыцыйнага іміджу і дэманстрацыі адданасьці ідэям антылукашызму варта было б заснаваць у Менску недзяржаўную газэту *“Тамбовский демократ”*. Такі сабе орган змаганьня супраць рэжыму, а за што — з назвы відаць, без эўфэмізмаў, усякіх там *“времен”* і *“новостей”*. Глядзіш, так Лукашэнку і скінем — супольным *“навались”* і адным махам. Ото зажыве Беларусь!

Не, не перажывае наша прэса ніякага крызысу. Гэта беларуская незалежнасьць перажывае свае сапраўды крытычныя дні. У тым сэнсе, што няшмат чым яна абароненая ад суседніх аншлюзатараў і можа быць страчаная кожны момант. Пакуль мы ў нашым *“Тамбовском демократе”* будзем разважаць пра нашы інтэграцыйныя электараты ды падлічваць зьвесткі сумнеўных апытаньняў пра тое, што большасьць менчукоў (ах, якая прыкрасьць!) — за ўваходжаньне Беларусі ў склад Расеі. Апытаньні сумнеўныя хоць бы таму ўжо, што заўсёды робяцца па-расейску, і гэта ў нас лічыцца “чыстай сацыялёгіяй”, хоць насамрэч у такой самай ступені нясуць у сабе падказку, як і такія самыя апытаньні па-беларуску. Псыхалягічная рэакцыя на мову ня ўлічваецца.

Шкада інтэлігенцыі, якая заблукала апошнім часам у трох соснах і пачуваецца загнанай у кут. Я ўжо восем гадоў добрасумленна ненавіджу Лукашэнку, а ён вазьмі дый скажы, што анэксія — гэта бязглуздзіца (гэта значыць, тое самае кажа, што я думаю), дык мне нібыта або Лукашэнку палюбіць трэба — што немагчыма, або незалежнасьць выкрасьліць з сваіх каштоўнасьцяў — што таксама ўяўляецца трызьненьнем. Вось ён — цяперашні крызыс.

Адно, чым прыдумала наша інтэлігенцыя ратавацца, гэта тым, што кажа ён тое няшчыра або што зусім ня тое мае на ўвазе. А гэта ўжо чысты самападман.

Тут трэба глядзець на дылему ў кантэксьце — не спрашчаць, а ўлічваць мноства фактараў, і не ўскладняць, а слухаць уласнае сэрца. Ёсьць прынамсі два спосабы вырашэньня гэтай праблемы.

Якім чынам я буду тлумачыць сваю пазыцыю гадоў праз дваццаць, калі ўжо ўсё скончыцца? Што я так моцна ненавідзеў рэжым, ажно пачаў выдаваць *“Тамбовского демократа”*? Думаю, з вышыні дваццаці гадоў будзе добра відаць, што незалежнасьць у Беларусі пачатку стагодзьдзя была адзінай абсалютнай грамадзкай каштоўнасьцю, а што ўжо ты сабе там думаў і каго ненавідзеў — справа дзясятая, твая асабістая і — на той час.

Другі спосаб — выбачаюся за патас — падслухаць у народу. Узвысіцца да народнага вырашэньня гэтай праблемы. З многіх формулаў нашага цяперашняга бытнаваньня найбольш удалай мне падаецца наступная: “Народ разабраўся з Лукашэнкам і пачаў шукаць сваіх”. Гэта значыць:

— людзі перасталі жыць у чаканьні стрэсаў — раптоўных і гвалтоўных дзеяньняў з боку ўлады;

— людзі пачалі будавацца — шукаць лепшую працу ці пяць працаў, фармаваць па-новаму кола сяброў, зьбіраць грошы, думаць пра будучыню дзяцей тут, а ня дзесьці.

Народ “перарос” Лукашэнку. Сьвет больш не сыходзіцца клінам на ППРБ, і шмат чаго можна зрабіць, не чакаючы “літасьці ад прыроды”, бо Лукашэнка перастаў быць гэтай самай прыродай — камусьці даваць жаданае сонца ці дождж, а для кагосьці быць стыхійным бедзтвам.

Сьледам за народам “перарасьці” яго мусілі б і палітыкі. У вачох свайго электарату спадар Хадыка, да прыкладу, нясе ніяк ня меншую, а нават і большую адказнасьць за Беларусь, яе незалежнасьць, канстытуцыю і дзяржаўнасьць, чым таварыш Сапега. А інакш — чаму б гэта мне за спадара Хадыку галасаваць на выбарах? Толькі каб насаліць таварышу Сапегу? Каб толькі насаліць, сапраўды найбольш эфэктыўна выдаваць *“Тамбовского демократа”*. Толькі тады ўсе пералічаныя каштоўнасьці (Беларусь, незалежнасьць і г.д.) перастаюць быць прадметам размовы. А паколькі апазыцыйнасьць спадара Хадыкі і ягонае партыі — гэтая ніякая ні для кога не каштоўнасьць, дык пра што размова?

У Беларусі яшчэ ніхто з палітыкаў не перарос Лукашэнку, усе — пад ім, сьцятыя сваёй апазыцыйнасьцю. Але Лукашэнка адзін, адзін чалавек, які стаіць за словамі пра незалежнасьць у Канстытуцыі. Варта цяперашняму расейскаму Штырліцу ўжыць якія заплечныя захады або самому таварышу Сапегу ўвесьці праз рэфэрэндум якія-небудзь “дзьве дзяржаўныя незалежнасьці” — і мы з вамі апынёмся дзе-небудзь у XIX ст. Невядома, на які тэрмін. Цікава, які тады будзе лёс чатырох умоваў, каб апазыцыя (якая і каму?) пачала гаварыць з уладамі (няйначай, на беларускую фэдэральную акругу прышлюць земляка Чубайса).

Усё гэта сьмешна, відаць. Але ад усяго гэтага нас аддзяляе адно імгненьне — прысутнасьць і пазыцыя Лукашэнкі (неістотна — дыктатара, хамскае ўлады, мазаічнага псыхапата — як заўгодна). Адно імгненьне аддзяляе нас ад хаосу, у які абрынецца Беларусь у выпадку ўваходу ў склад Расеі. Сьведама жадаць такога можа толькі чалавек з поглядамі Асамы бэн Ладэна.

Словам, усё пытаньне — каму што дорага і што чаго варта. Не рабеце каштоўнасьці са сваёй апазыцыйнасьці, а рабеце — зь Беларусі, незалежнасьці, мовы. Праз 20 гадоў я нікому не растлумачу, што не зьбярог гэтага таму, што ненавідзеў Лукашэнку. Нікому, у тым ліку і сабе.

Ня мусіць за згаданымі каштоўнасьцямі стаяць адзін чалавек.

ППРБ так і ня здолеў стварыць партыю ўлады. Магчыма, ён ставіў задачу, каб яе не было, бо інакш яна даўно б узьнікла сама — з падхалімаў і прыкарытнікаў. Але гэтае месца — грамадзкай сілы, якая б стаяла за незалежнасьцю, — зеўрае ў беларускім палітычным спэктры пустатой. Гэта наша чорная дзірка. Натуральна, спадар Хадыка ніколі не будзе ствараць тое, што называлася б партыяй улады, бо ў самым панятку тут гучыць прыслужніцтва. Але ён мог бы стварыць кампрамісную Канстытуцыйную партыю, якая ў сёньняшняй сытуацыі мела б шанцы і выступала б не як апазыцыйная, а як спаборная таварышу Сапегу — гэта значыць, апазыцыйная не татальна, а ў долях спэктру...

Але даруйце, пустыя фантазіі... Разфантазіяваўся. Апошнія, так бы мовіць, рыскі ў нашаніўскай дыскусіі. Даруйце і пастарайцеся зразумець сьціплыя аўтарскія амбіцыі — у *“Тамбовском демократе”* я такіх разваг ужо не надрукую ніколі.

**Сяргей Дубавец**



апытаньне “НН”

# Каліноўскі й Даватар

**Напярэдадні ўгодкаў бітвы пад Воршай (8 верасьня 1514 году) мы правялі апытаньне на менскіх вуліцах, прапануючы мінакам адказаць на пытаньне: "З кім асацыюецца ў Вас беларуская вайсковая слава?"**

**Андрэй**, студэнт: З паўстанцамі 1863-га. А вось хто імі кіраваў, я ня памятаю, хоць і чытаў гісторыю.

**Мікалай Віктараў**, гвардыі падпалкоўнік запасу, удзельнік другой сусьветнай вайны: Я ведаю толькі пра вайскоўцаў мінулага стагодзьдзя: Фрунзэ ствараў у Менску міліцыю, а будучы маршал Жукаў служыў перад вайной у Беларусі, на Случчыне.

**Барыс Падкораў, Алег і Андрэй**, вучні 9-й клясы: Кастусь Каліноўскі. Ён паўстаньне ўзьняў у Беларусі ў XIX стагодзьдзі.

**Анатоль Васілевіч**, пэнсіянэр: Генэрал Даватар. У яго ёсьць беларускія карані. Яшчэ... Ну, Каліноўскі, але ж гэта грамадзянская вайна была. Ён, вядома, герой, адважны чалавек, але змагаўся за інтарэсы свайго саслоўя... Мы мала ведаем пра сапраўдную гісторыю, а тое, што пішуць з аднаго боку і з другога, да гэтага мала веры.

**Мікалай Анішчанка**, падпалкоўнік: Найперш — Касьцюшка. А яшчэ Радзівіл, які ў вайну 1812 г. ваяваў на баку Напалеона. Больш вядомыя беларускія вайскоўцы апошняй вайны.

**Уладзімер**, школьнік: Касьцюшка. Ён паўстаньнем кіраваў супраць цара, супраць улады. Больш нікога ня памятаю.

**Алена** і **Наташа**, вучаніцы 9 клясы: Кастусь Каліноўскі. Ён паўстаньне ўзьняў, а супраць каго, ня памятаем, забыліся... Тадэвуш Касьцюшка, таксама паўстанец, але ён раней жыў за Каліноўскага.

**Лёша**, студэнт: З бітвай войска Вялікага Княства Літоўскага пад Воршай. Адкуль ведаю пра яе? Чытаў гісторыю Беларусі.

**Запісаў Алег Тачоны**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

## АД РЭДАКЦЫІ

У той сярэднявечнай Аршанскай бітве беларускае войска пад кіраўніцтвам гетмана Канстанціна Астроскага бліскуча перамагло агрэсараў з усходу — войска Вялікага Княства Маскоўскага. З тых часоў і да сёньня ў беларуска-расейскіх дачыненьнях няма спакою — дзясяткі бітваў і акупацыі пад знакам “братняе дружбы”, анэксіі і пагрозы аншлюсу. Менавіта на маскоўскім кірунку найперш гартавалася беларуская вайсковая слава. Менавіта супраць расейскага захопу ваявалі і Касьцюшка ў паўстаньні 1794 году, і Каліноўскі — у 1863-м. Апошні, дарэчы, змагаўся не за сваё саслоўе, а наадварот (“У нас няма дваран — усе роўныя” — ягоныя словы), за што і разышоўся са сваімі польскімі калегамі, якія называлі яго “хлапаманам”. Можна называць яшчэ дзясяткі слынных беларускіх герояў, што змагаліся і загінулі “на ўсходняй мяжы”. Савецкая гістарыяграфія нічога не казала пра герояў антымаскоўскіх войнаў, спрабуючы затуліць іх удалымі савецкімі партызанамі часоў мінулай вайны. Як справядліва заўважыў адзін з рэспандэнтаў, які вылучыў постаці Каліноўскага і Даватара, гэтыя асобы працягваюць змагацца і на старонках гістарычных кніг. І пакуль далёкія падзеі будуць асьвятляцца зь дзьвюх супрацьлеглых пазыцыяў — ім мала веры.

Героі прыходзяць у сьвядомасьць народу на школьных уроках. А незалежная Беларусь, якая яшчэ шукае сваю дзяржаўную ідэалёгію, сёньня толькі на подступах да свае адзінае гістарычнае праўды, вайсковае славы і яе гераічных пэрсанажаў.

# Вайсковая слава — прыватная справа

**Кіраўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька адказаў на пытаньні "НН" напярэдадні Дня беларускай вайсковай славы.**



IREX-PROMEDIA

**“НН”: Ці мусім мы сёлета сьвяткаваць Дзень беларускай вайсковай славы?**

**Анатоль Лябедзька:** Кожная структура павінна вырашаць унутры сябе, сьвяткаваць ці не. Гэта справа кожнага чалавека. Я кажу гэта як прадстаўнік лібэральнай партыі. Многія сябры АГП возьмуць удзел у публічных сьвяткаваньнях. Я асабіста буду ў Лідзе, дзе сустрэнуся з маці Віктара Ганчара: 7 верасьня ў яго дзень нараджэньня.

**“НН”: Які сэнс павінен укладацца ў гэтае сьвяткаваньне?**

**А.Л.:** Кожны чалавек будзе ўкладаць свой сэнс. Галоўнае — гэты дзень трэба зьвязваць зь Беларусяй.

**“НН”: Чаму апошнім часам Дзень беларускай вайсковай славы сьвяткуецца ўсё больш і больш сьціпла?**

**А.Л.:** У людзей не хапае інфармацыі. Любое сьвята павінна “раскручвацца” немалымі рэсурсамі, а ў нас такая магчымасьць ёсьць толькі ў дзяржавы.

**А.Т.**

# АНТЫДЗЯРЖАЎНАЯ

## Як загінула падлодка нашых “саюзьнікаў”

**Як вызначыла ўрадавая камісія, "Курск" загінуў ад уласнае тарпэды, што выбухнула ў выніку "складанай фізыка-хімічнай рэакцыі", хоць раней была ў поўным парадку. *"Российская газета"*, орган расейскага ўраду, напісала, што гэта мана, і апублікавала сваю падрабязную справаздачу пра прычыны трагедыі "Курска". Аляксандар Емяльяненкаў, аўтар артыкула, атрымаў доступ да ўсіх 133 тамоў засакрэчаных матэрыялаў сьледзтва па справе "Курска" — тады як грамадзкасьці з гэтых дакумэнтаў былі прад'яўленыя тры старонкі машынапісу. Емяльяненкаў адшукаў таксама сьведкаў, экспэртаў і размаўляў са сваякамі падводнікаў.**

### Падробленыя подпісы

**Як сьцьвярджае *"Российская газета"*, тарпэды расейскага флёту не праходзяць плянавых рамонтаў, зь іх выцякае перакіс вадароду, які ў сумесі з палівам утварае выбуховую сумесь. Сваякі членаў каманды расказалі, што капітан Генадзь Лячын не хацеў выходзіць у мора з такой "сьмярдзючай", як ён казаў, тарпэдай. Емяльяненкаў выявіў, што на дакумэнтах прыёмкі на падлодку "тоўстай" тарпэды стаяць падробленыя подпісы людзей, якія адказвалі за стан узбраеньня "Курску".**

### Сапсаваны буй

**Надводныя караблі, якія ўдзельнічалі ў вучэньнях у Баранцавым моры (у тым ліку прызначаныя для выяўленьня падводных лодак і процідзеяньня ім), 31 гадзіну не маглі знайсьці месца, дзе на глыбіні 108 м ляжаў 150-мэтровы "Курск". І ня толькі таму, што іхныя рэхазонды ні на што ня годныя — з "Курску" на паверхню не падняўся сыгналізацыйны буй. А ня выплыў ён таму, што перад выхадам у мора быў пастаўлены на засьцерагальнік. Аўтаматычнае прыстасаваньне, якое выпускае буй, ад часу спуску падлодкі на ваду (1994 г.) было адключанае пры дапамозе спэцыяльнай заглушкі. Электронны ключ ад апарата, які прыводзіў буй у стан гатоўнасьці, ляжаў у бартавым сэйфе.**

### Ня ўмелі спускаць батыскафы

**Калі былі вызначаныя каардынаты "Курску", можна было пачынаць выратавальную апэрацыю. Аднак выратавальны карабель "Міхаіл Рудніцкі" ня выйшаў з порту адразу: ня меў паліва. Калі ж нарэшце выправіліся, спачатку паплылі ня ў тым кірунку. На пошук належнага курсу пайшлі дзьве гадзіны. На месцы аказалася, што батыскафы "Рудніцкага", якія некалькі гадоў не апускаліся пад ваду, працякаюць. Урэшце спробы наблізіцца да падлодкі давялося прыпыніць, бо матросы з "Рудніцкага", якія даўно не праводзілі трэніровачных спускаў у батыскафах у моры, пабілі іх аб борт свайго карабля. Можна было б адрамантаваць, але на борце "Рудніцкага" не знайшлося неабходных інструмэнтаў і матэрыялаў — перш за ўсё разводных ключоў, ручных дрылёў і гумы...**

**А тым часам на борце "Курску" чакалі 23 маракі, якія перажылі выбух у тарпэдным адсеку. Чакалі доўга. Яны былі жывыя ня восем гадзінаў, як абвясьціла ўрадавая камісія, а, як вынікае з апублікаваных *"Российской газетой"* матэрыялаў, цэлыя суткі, а мо і даўжэй.**

**Мы перадрукоўваем дакумэнт са скарачэньнямі. Варта заўважыць, што *"Российская газета"* ў Беларусі не прадаецца і не паступае ў беларускія бібліятэкі.**



### Якую задачу выконваў “Курск”

Згодна з плянам вучэньняў, К-141 “Курск” павінен быў выканаць ракетную стральбу па мішэні 11 жніўня 2000 г., на наступны дзень — умоўную ракетную стральбу па авіяноснай шматмэтавай групе, а пасьля “разьвіць посьпех выкарыстаньнем тарпэднай зброі”. У 8.35 12 жніўня крэйсэр “адстраляўся” па надводных караблях “праціўніка”, аб чым у 8.51 камандзір далажыў на камандны пункт Паўночнага флёту. І гэта была апошняя інфармацыя з “Курску”.

У 11.09, калі крэйсэр “Пётар Вялікі” падыходзіў да раёну месцазнаходжаньня К-141, камандзір ягонай гідраакустычнай групы старшы лейтэнант А.Лаўрынюк выявіў пасылкі гідралякатара ў выглядзе імпульсаў, якія звычайна зыходзяць ад падводных лодак перад тарпэднай атакай. “Пётар Вялікі” і іншыя караблі прайшлі праз раён меркаваных дзеяньняў “Курску”. Тарпэднай атакі неназіралася. Данясеньня аб прычынах з падводнай лодкі не паступіла.

### Чаму так доўга не маглі знайсьці “Курску”

У 16.35 “Пётар Вялікі” пачаў выклікаць К-141, аднак адказу не было. Не было данясеньня ад “Курску” ў вызначаны час і на камандны пункт Паўночнага флёту. У 18.14 начальнік штабу Паўночнага флёту загадаў пачаць пошукава-выратавальную апэрацыю, у якой узялі ўдзел 12 баявых караблёў, 21 выратавальнае судна, 5 самалётаў Іл-38 і 6 гелікоптэраў, а таксама два вадалазныя судны і спэцыяльны апарат выратавальнай службы Нарвэгіі.

13 жніўня ў 8.31 з борту “Пятра Вялікага” назіралі буй, заглыблены на тры мэтры, дыямэтрам каля 70 см, афарбаваны ў сьветла-зялёны колер. Прыблізна ў той самы час рэхалот паказаў зьмяншэньне глыбіні пад кілем з 104 да 84,86 м. 13 жніўня ў 18.15 падводны апарат АС-34, спушчаны пад ваду з выратавальнага судна “Міхаіл Рудніцкі”, выявіў засьветку на экране рэхалякатара. У 18.32 апарат выканаў аварыйнае ўсплываньне — ударыўся аб стабілізатар “Курску”.

### Чаму ня ўсплыў сыгнальны буй

Прадугледжанае праектам і ўстаноўленае на “Курску” аварыйна-інфармацыйнае прыстасаваньне, якое ў выпадку аварыі на падлодцы павінна аўтаматычна ўсплыць, сваёй місіі ня выканала.

Сыгнальны буй пасьля пад'ёму атамаходу быў знойдзены на сваім штатным месцы. Ён быў спраўны, аднак сыгнал на спрацоўваньне ў момант катастрофы на яго не паступаў. У прыладзе кіраваньня выпускам, знойдзенай у завалах трэцяга адсеку, адсутнічаў на штатным месцы ключ пуску, што і сталася асноўнай прычынай неспрацоўваньня аварыйна-сыгнальнага буя.

Камандзір групы сувязі перад выхадам “Курску” ў паход 10 жніўня абавязаны быў уставіць на штатнае месца ў выпускной прыладзе ключ пуску. Гэтага зроблена не было.

— Можа, я ведаю прычыну, — адгукнуўся Анатоль Рудакоў, бацька загінуўшага на “Курску” Андрэя Рудакова, капітана 3 рангу, камандзіра БЧ-4. — Гэты самы буй папсаваў ім крыві, яшчэ калі ў Міжземку хадзілі. Тая яшчэ тэхніка! Толькі і думалі, каб часам не згубіць. Здаралася, буй нават прыварвалі, якая ўжо тут аўтаматыка...

Камандзір БЧ-4, нягледзячы на зробленыя ім у вахтавым журнале 8, 9, і 10 жніўня запісы пра гатоўнасьць асабовага складу часьці і ўсіх сродкаў сувязі да бою і паходу, не пракантраляваў дзеяньняў свайго падначаленага, дапусьціўшы выхад падводнай лодкі ў мора з адключаным буем.

Гэтыя акалічнасьці ўскладнілі пошук “Курску” ў Баранцавым моры і выратавальную апэрацыю.

### Што замінала адчыніць аварыйны люк

З-за памылковых дзеяньняў камандуючага флётам адмірала Папова, пад чыім непасрэдным кіраўніцтвам праходзілі вучэньні 10—12 жніўня, няправільнай ацэнкі сытуацыі ягонымі падначаленымі, “Курск” быў абвешчаны аварыйным толькі ў 23.30 12 жніўня — са спазьненьнем на 9 гадзінаў. А выяўлены ў нерухомым стане на грунце быў праз 31 гадзіну пасьля гібелі.

І гэта пры тым, што ў непасрэднай блізкасьці ад “Курску” знаходзіліся 5 падводных лодак, 18 надводных караблёў, 22 самалёты, 11 гелікоптэраў, 10 берагавых часьцей.

Выявіць “Курск” на грунце ўдалося прыкладна ў 18.30 13 жніўня пры апусканьні апарата АС-34. Згодна з паказаньнямі камандзіра АС-36 А.І.Калугіна, ягоны апарат браў удзел у выратавальных работах толькі ў пэрыяд з 13.45 да 17.50 19 жніўня. За гэты час было зроблена пяць спроб сесьці на аварыйна-выратавальны люк дзявятага адсеку падводнай лодкі. Тры разы яны спрабавалі сесьці на камінгз-пляцоўку і адпампаваць ваду з камэры прысосу. Аднак намаганьні былі безвыніковымі.

АС-36 быў пабудаваны шэсьць год таму, і 18 жніўня пры апусканьні на глыбіню 110 м апарат пад ціскам дзесяць атмасфэр пачаў прапускаць ваду — з-за негерметычнасьці ў клапане сыстэмы асушэньня, замяшчэньня і дыфэрэнтоўкі. З моманту



19 кастрычніка 1999 году. Экіпаж "Курску" вярнуўся з паходу.

дзяржаўных выпрабаваньняў у 1996 г. гэты апарат увогуле не спускаўся пад ваду, таму магчымасьці выявіць няспраўнасьць не было.

14 жніўня ў выніку некампэтэнтных дзеяньняў службовых асоб Паўночнага флёту пры спуску АС-34 ва ўмовах шторму з-за ўдараў аб борт "Міхаіла Рудніцкага" пабілася навігацыйнае абсталяваньне на апараце, а сам ён быў выведзены са строю. 16 жніўня зь "Міхаіла Рудніцкага" на "Пётар Вялікі" была перададзеная тэлеграма: "Для рамонту АС-34 патрэбны: ключы разводныя, гарцовыя ад 5 да 24 мм — 5 камплектаў, два ручныя дрылі са сьвердламі ад 2 да 16 мм — 2 камплекты, расходны матэрыял параніт 0,5—5 мм — 10 лістоў, гума 0,1 мм і больш — 10 лістоў, ПГВ-2 (гідраўліка) — 100 кг". Усё пералічанае, на думку экспэртаў, мусіць быць на выратавальным караблі.

Рэальная магчымасьць "прысмактацца" да падлодкі АС-34 меў толькі 17 жніўня, калі апаратам кіраваў капітан 3 рангу Шолахаў, і АС-36 — 19 жніўня, калі апаратам кіраваў капітан 2 рангу Перцаў. Ва ўсіх астатніх выпадках выратавальныя апараты занадта доўга "наводзілі на цэль", ад чаго разраджаліся акумулятарныя батарэі.

### За што пазбыліся пасад адміралы Моцак і Папоў

Згодна з заключэньнем арганізацыйна-тактычнай экспэртызы ад 1 лістапада 2001 г., камандую-



**На расейскай падводнай лодцы "Курск" загінулі два беларусы: капітан 2-га рангу, першы памочнік камандзіра субмарыны Сяргей Дудко і капітан-лейтэнант Аляксандар Садкоў. На здымку Сяргей Дудко разам з жонкай Аксанай і сынам.**

# ТАЯМНІЦА

чы Паўночным флётам адмірал У.Папоў, начальнік штабу флёту віцэ-адмірал М.Моцак і начальнік упраўленьня баявой падрыхтоўкі віцэ-адмірал Ю.Баяркін парушылі мэтодыку правядзеньня вучэньняў — на другім іх этапе караблі і авіяцыя не выконвалі тактычных дзеяньняў. Мелі месца толькі баявыя стрэльбы, што зьяўляецца парушэньнем дзейных патрабаваньняў. Разьмяшчэньне камандных пунктаў "усходніх" і "заходніх" на адным караблі выключала якое-небудзь навучаньне. Камандуючы флятыляй віцэ-адмірал А.Бурцаў наагул ня ведаў, што ён — камандзір "усходніх". Шэраг справаздачных дакумэнтаў з подпісамі згаданых вышэй службовых асоб выклікае сумнеў. Як гаворыцца ў заключэньнях экспэртызы, дакумэнты "ўтрымліваюць подпісы службовых асоб, якія адрозьніваюцца ад выкананых раней іншых подпісаў гэтых жа асоб..." А гэта ж дакумэнты, якія характарызуюць паўнату і якасьць адпрацоўкі экіпажам



"Курску" спэцыяльных і курсавых задач, выкананьне рэгляментных праверак падчас эксплюатацыі тарпэднага абсталяваньня, і нават дакумэнты аб допуску да прыёму і абслугоўваньня тарпэдаў.

### Дзе і як рыхтавалі "тоўстую" тарпэду для "Курску"

Загружаная на "Курск" 3 жніўня 2000 г. практычная тарпэда калібру 650 мм адносілася да цеплавых тарпэд, што маюць энэргетычную ўстаноўку, дзе ў якасьці акісьляльніку выкарыстоўваўся перакіс вадароду. Яна была выраблена на АТ "Машзавод" (Алма-Ата) у 1990 г. Агульны тэрмін службы тарпэды — да 20 год, сярэдні рамонт — праз 10 год. З моманту вырабу гэтая тарпэда на падводныя лодкі не выдавалася і для практычнай стральбы не выкарыстоўвалася.

Тэрмін захаваньня працаздольнасьці гуматэхнічных дэталяў, якія кантактуюць зь перакісам вадароду, пры захоўваньні цеплавых тарпэд у сабраным выглядзе абмежаваны. Зьвесткі пра ўстаноўку гумавых дэталяў павінны быць пазначаныя ў дадатку да фармуляру тарпэды. Аднак ён адсутнічае — нібыта "зьнішчаны выбухам".

У асобных камплектуючых абсталяваньня тарпэды былі перавышаны дапушчальныя тэрміны службы. Паводле розных ацэнак — ад году да шасьці. У 2000—2001 г. у часе кантрольных праверак выяўлена, што ў працэсе падрыхтоўкі, абслугоўваньня і захоўваньня тарпэд калібру 650 мм на Паўночным флёце дапускалася паўторнае выкарыстаньне ўшчыльняльных кольцаў. Зафіксаваны выпадкі працечак перакісу з рэзэрвуара акісьляльніку ў месцах ушчыльненьня і праз засьцерагальныя клапаны з прычыны ўстаноўкі няштатных пракладак. На вонкавай паверхні рэзэрвуараў акісьляльніку ў месцах зварных швоў меліся ракавіны глыбінёй да 5 мм. На паверхні асобных тарпэдаў назіраліся сьляды карозіі. Не выконваліся прадугледжаныя інструкцыяй праверкі электрычнага ланцуга ад сыгналізатара ціску баявых і практычных тарпэдаў, а таксама сыстэмы дэгазацыі і спрацоўваньня сыгналізатара.

### Што вядома пра падзеі на "Курску" перад выбухам

У завалах другога і трэцяга адсекаў былі знойдзеныя вахтавыя журналы і шмат іншай службовай дакумэнтацыі. Нават захаваліся папяровыя (!) стужкі самапісцаў у рубцы гідраакустыкаў.

Пры аглядзе пятага, рэактарнага, адсеку на пульце ГЭУ знойдзены ў поўнай захаванасьці кантрольны журнал устаноўкі правага борту і два — за 1999 і 2000 г. — вахтавыя журналы ГЭУ левага борту.

Было выяўлена некалькі запісак, пакінутых падводнікамі ў перадсьмяротныя гадзіны.



Аднак ніводзін са згаданых дакумэнтаў і сродкаў тэхнічнага кантролю, паводле заключэньня сьледзтва, не дае адказу на пытаньне пра прычыны катастрофы.

Запісы ў чарнавым вахтавым журнале "Курску" абрываюцца на 8-й раніцы: на вахту заступіла новая баявая зьмена, а ў яе — свой журнал. Яго выявіць не ўдалося. Затое тамсама, на трэцім насьціле другога адсеку, знайшлі чыставы журнал — сьцісла варыянт запісаў, перанесеных з чарнавога.

У 6.20 раніцы 12 жніўня дадзена каманда "Тэрміновае апусканьне" — гэта апошняе, што значыцца ў ім.

Апошні запіс у журнале посту кіраваньня рэактарам правага борту вахтавы афіцэр зрабіў у 8.50. Ягоны напарнік, апэратар посту кіраваньня левым рэактарам, быў больш патрабавальны да сябе. Менавіта яму належыць апошняе дакумэнтальнае сьведчаньне пра сытуацыю на падводнай лодцы да выбуху. Запіс у журнале "Заўвагаў няма" зроблены 12 жніўня ў 11.15. Вяліся журналы са значнымі парушэньнямі. Шмат якія абавязковыя зьвесткі, што тычацца плаваньня і дзеяньняў экіпажу падчас вучэньняў, там адсутнічаюць. Няма запісаў аб прыбыцьці на борт цывільнага спэцыяліста заводу "Дагдызэль" і прадстаўніка ваеннай прыёмкі.

Пры аглядзе папяровай стужкі ў рэгістравальнай прыладзе гідраакустыкаў, выяўлена, што апошняя інфармацыя, якая захавалася на самапісцы (на 10.12 12 жніўня), сьведчыць пра пачатак павароту лодкі на курс каля 320 градусаў з хуткасьцю 6 вузлоў на глыбіні 16—18 м. Тая частка папяровай стужкі, якая знаходзілася між верхнім і ніжнім (прыёмным) барабанамі і магла б зьмяшчаць інфармацыю на момант катастрофы, зьнішчана падчас аварыі.

### Чаму было неабходна падняць першы адсек

Спэцыяльна створаная камісія вуснамі свайго кіраўніка Ільлі Клябанава пасьля доўгіх ваганьняў і адтэрміновак вынесла вэрдыкт: тарпэда. Уся справа ў ёй. Прычым не баявая. І ня тая, добра вядомая падводнікам электрычная УСЭТ-80, што атрымала на заводзе "Дагдызэль" удасканаленую акумулятарную батарэю і якую экіпаж зьбіраўся выпрабаваць на другім залпе — сьледам за "таўстушкай". Менавіта з гэтай прычыны на борце "Курску" апынуліся вядучы канструктар заводу Мамед Гаджыеў і прадстаўнік ваеннай прыёмкі Арнольд Барысаў.

Разбураныя часткі гэтай тарпэды выяўлены ў завалах другога-трэцяга адсекаў. Парэшткі старшага лейтэнанта Арнольда Барысава і яшчэ 58 членаў экіпажу вынуты адтуль жа. Таго, што засталося ад Мамеда Гаджыева, знойдзена не было. Ён, а таксама матросы Іван Няфедкаў, камандзір аддзяленьня тарпэдыстаў, і мэханік БЧ-2 Дзьмітры Каткоў знаходзяцца ў насавой частцы першага адсеку, якая засталася на дне. Адгаворкі, што іхныя целы цалкам згарэлі, спэцыялістаў не пераконваюць. Фарба, якая захавалася на фрагмэнтах адсечнага абсталяваньня, некранутыя агнём дакумэнты — як гэта стыкуецца з заявамі пра пажар з тэмпэратурай у некалькі соцень градусаў?! Толькі пад'ём першага адсеку можа даць дакладны адказ, у якім стане цяпер баявыя тарпэды, чаму пры першым выбуху аказаліся разбуранымі 4-ы і 2-і тарпэдныя апараты, а ня 6-ы, які знаходзіцца проста над чацьвёртым і, калі трымацца афіцыйнае вэрсіі, павінен быў пацярпець ня менш за 2-і. Выказваецца меркаваньне, што мела месца знадворнае ўзьдзеяньне зь левага борту і ніжэй за ватэрлінію. Ні пацьвердзіць гэта, ні абвергнуць без пад'ёму першага адсеку немагчыма.

### Загадана верыць, што тарпэда ўзарвала сябе зь сярэдзіны

12 жніўня ў 11.28 на "Курску", сьцьвярджаецца ў акце ўрадавай камісіі, узарвалася перакісна-вадародная тарпэда. Узарвалася яна ў трубе тарпэднага апарата №4, куды была загружана для падрыхтоўкі да стрэлу раніцай таго самага дня.



Адкрыцьцё мэмарыялу падводнікам. Масква, 12 жніўня 2002 году.

З гэтым рэзюмэ сьледзтва згаджаецца. Хоць у дэталях пазыцыі разыходзяцца.

Так, у акце ўрадавай камісіі сьцьвярджаецца, што "выбух кампанэнтаў паліва практычнай тарпэды ў трубе тарпэднага апарата №4 выкліканы ўзьнікненьнем працечак перакісду вадароду з рэзэрвуара акісьляльніку тарпэды праз няшчыльныя месцы зварных швоў ці ўшчыльняльных пракладак і ўзгараньнем неметалёвых прадмэтаў у кальцавым зазоры тарпэднага апарата". А ў заключэньні комплекснай камісійнай выбухатэхнічнай экспэртызы, праведзенай у Інстытуце крыміналістыкі ФСБ РФ, пра тое самае сказана куды больш абцякальна і няпэўна: "Цэнтар выбуху, які пацягнуў за сабой першасныя разбурэньні канструкцыі АПРК "Курск", знаходзіўся ў міжбортнай прасторы і лякалізаваны ў месцы разьмяшчэньня практычнай перакіснай тарпэды... Прычынай выбуху не зьявілася знадворнае ўзьдзеяньне на канструкцыю практычнай тарпэды калібру 650 мм №1336А ПВ, якая знаходзілася ўсярэдзіне тарпэднага апарата, іншародных целаў, разьмешчаных па-за лёгкім корпусам лодкі, ці выбуху міны. Канкрэтызаваць мэханізм узьнікненьня крыніцы першаснага імпульсу не ўяўляецца магчымым..."




Гэтая экспэртыза завершана 19 ліпеня 2002 г. А 22 ліпеня старшы сьледчы па асабліва важных справах Галоўнай ваеннай пракуратуры падпалкоўнік юстыцыі А.Л.Егіеў ужо падпісаў выніковы дакумэнт расьсьледаваньня — амаль 200-старонкавую пастанову пра спыненьне крымінальнай справы. З амаль стандартнай фармулёўкай — з-за адсутнасьці складу злачынства...

**на тыдні**

### Хто падслухаў Лябедзьку

**Прэс-сакратар КДБ Хведар Котаў адмаўляе дачыненьне гэтай службы да зьяўленьня запісу тэлефоннай размовы Барыса Нямцова і Анатоля Лябедзькі ў СМІ.** Адказваючы на пытаньне "НН", ці мае Камітэт неабходныя тэхнічныя магчымасьці, каб зрабіць такі запіс, Х.Котаў сьцьвердзіў, што "КДБ валодае неабходным арсэналам, людзкімі і тэхнічнымі рэсурсамі, каб раскрыць любое злачынства супраць дзяржавы". "Нам ёсьць з кім працаваць і каму працаваць", — сказаў ён.



А.Лябедзька абвінавaціў беларускія спэцслужбы ў правакацыі супраць яго, пасьля таго як *"Советская Россия"* и *"Советская Белоруссия"* апублікавалі запіс размовы А.Лябедзькі і Б.Нямцова.

### Зьезд СП 24 верасьня

**Рада Саюзу пісьменьнікаў прызначыла дату зьезду. Рада сабралася на мяжы кворуму — з 60 сяброў прысутнічаў 31.** Аднагалосна вырашылі, што зьезд адбудзецца 24 верасьня ў Доме літаратара. Камісію па падрыхтоўцы зьезду ўзначаліў Алесь Пашкевіч, у яе ўвайшлі таксама С.Законьнікаў, Г.Далідовіч, М.Скобла і Б.Пятровіч. Рада перахапіла ініцыятыву ў альтэрнатыўнага "аргкамітэту" на чале з акадэмікам Гніламёдавым. Ягоныя прыхільнікі, дарэчы, і спрабавалі сарваць кворум.

### Козік у Іраку

**Прафбос Леанід Козік зьяўляецца яшчэ й сустаршынём беларуска-іракскай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве.** Таму ён наведаў Ірак і 2 верасьня сустрэўся з Садамам Хусэйнам. Пра мэты візыту МЗС адказвае няпэўна. Тым часам ЗША працягваюць рыхтавацца



да вайсковае апэрацыі па скіданьні Хусэйна. Нямеччына пакуль выказваецца супраць.

### Пасольства Ізраілю не зачыняецца

**Прэм'ер Ізраілю Шарон падпісаў распараджэньне** не зачыняць амбасады гэтае краіны ў Беларусі.

### Амэрыканскія лякатары ў Дзьвінску

**Да канца 2002 г. ЗША разгорнуць магутную радыёлякацыйную станцыю пад Дзьвінскам.** Яна будзе здольная адшукваць хуткасныя цэлі, у тым ліку боегаловы ракет. Ствараецца яна на базе былога савецкага аб'екту, працаваць на ёй будуць амэрыканскія спэцыялісты. Міністэрства абароны Расеі выказала Латвіі пратэст.

### Праграма разьвіцьця "Беларуськалію"

**Прэзыдыюм Савету міністраў ухваліў праграму разьвіцьця "Беларуськалію" да 2010 г.** Яна прадугледжвае прыцягненьне інвэстыцый на 989,4 млн. даляраў. Летась паступленьні ад паставак калійных угнаеньняў на экспарт склалі 463,4 млн. даляраў. Рэнтабэльнасьць вытворчасьці — 30,3%. З раней заплянаваных на 2000—2001 г. інвэстыцый памерам 236,7 млн. даляраў удалося прыцягнуць толькі 168,7 млн.

### Мірны ў чвэрцьфінале



**Макс Мірны дайшоў да чвэрцьфіналу турніру *US Open*.**

### 45% нафтапрадуктаў — кантрабанда з Расеі

**Урад ухваліў праект дэкрэту прэзыдэнта "Пра дадатковыя меры па змаганьні зь незаконным абарачэньнем нафтапрадуктаў".** Дакумэнт падрыхтавалі пасьля таго, як падатквікі выявілі, што 45% ад агульнае колькасьці ўвезеных нафтапрадуктаў складае кантрабанда Расеі.

### Рост грашовай масы абагнаў рост цэнаў

**Аб'ём грашовай масы ў краіне вырас за першае паўгодзьдзе на 28,6% пры росьце спажывецкіх цэнаў на 20,2% і склаў 1,6 трлн. руб.** Зь іх гатоўкай — 583,2 млрд. руб. (яе колькасьць вырасла толькі на 13,9%), а доля ў агульным аб'ёме грашовай масы зьменшылася на 36,3%. Рэшта — безнаяўныя грошы.

### Дранчук спрабаваў сфатаграваць Лукашэнку



**Актывіст апазыцыі Цімох Дранчук спрабаваў сфатаграфаваць, як старэйшы сын Лукашэнкі выяжджае на службовым "Мэрсэдэсе" з элітнага дому** на пр.Машэрава, ля дзяржаўнай рэзыдэнцыі "Дразды". Аднак супрацоўнікі Службы бясьпекі, паводле словаў Дранчука, забралі ў яго дыскету з здымкамі.

### Курорт на Зайцавай паляне

**Гарналыжная траса будзе створаная ля Раўбіч, у раёне ўзвышша "Зайцава паляна".** У праекце таксама паўкілямэтровы ліфт-пад'ёмнік, паркінг на дзьве тысячы машынаў, рэстарацыі, кемпінгі, падсьвятленьне, плястыкавае пакрыцьцё замест сьнегу на лета. Кошт трасы — пад мільён даляраў. Асноўны інвэстар — аўстрыйская фірма *"Sport Consulting Company"*, з кіраўніцтвам якой вёў перамовы асабіста А.Лукашэнка. Раўбіцкі гарналыжны курорт мае замяніць беларусам альпійскія.

### Радыяцыя робіцца мінулым

**Урад скараціў сьпіс населеных пунктаў, забруджаных радыяцыяй.** 150 гарадоў і вёсак цяпер лічацца чыстымі, іхныя жыхары страцілі права на льготы і адселеньне.

### Новая сетка БТ



**Кіраўнік БТ Ягор Рыбакоў абяцае маштабныя рэформы на канале, пачынаючы з новага сэзону, які адкрыецца 21 верасьня.** Скароціцца "Панарама", дададуцца "Навіны" а 23-й. Пачне працаваць "Начны этэр" да 3-й ночы, а ў ім упершыню на БТ — лёгкая эротыка. Новым дэвізам БТ будзе: "Першы нацыянальны. Тэлебачаньне тваёй краіны".

### Змаганьне за клясу

**Пад пагрозаю закрыцьця — беларуская кляса ў менскай СШ №181.** Адміністрацыя спасылаецца на яе малакамплектнасьць (11 чалавек) і прапануе вучням перайсьці ў расейскамоўныя клясы. Дзеці — супраць. Сёлета да клясы далучыліся яшчэ 4 чалавекі, якія раней вучыліся па-расейску. Паводле нормаў, гэтага ўсё ж замала.

### Гіганцкая аўтакатастрофа пад Крупкамі

**У аўтакатастрофе пад Крупкамі на трасе Менск—Масква сутыкнуліся 16 аўтамашынаў.** Загінулі 9 чалавек, столькі ж параненыя. Здарэньне супала з рашэньнем Міністэрства транспарту павялічыць дапушчальную хуткасьць на асобных кавалках гэтай аўтастрады з 110 да 120 км у гадзіну.



**Паводле інфармацыі БелаПАН, радыё "Свабода" і ад ул.кар.**

**каля футболу**

# Малафееў згуляўся з Канаплёвым

**Сэнсацыйная папера лягла ў пятніцу на стол кіраўніку Беларускай фэдэрацыі футболу Рыгору Фёдараву: галоўны трэнэр нацыянальнай зборнай Эдуард Малафееў паведаміў, што складае зь сябе паўнамоцтвы і сыходзіць у адстаўку ў сувязі з пагаршэньнем стану здароўя, выхадам на пэнсію і нэгатыўным стаўленьнем да яго некаторых СМІ. У нядзелю з гэтай нагоды была сабраная экстранная нарада фэдэрацыі футболу. Адстаўка Малафеева прынятая не была, а кіраўніцтву фэдэрацыі і Міністэрства спорту было даручана сустрэцца зь ім і пераканаць зьмяніць рашэньне. Да старту Беларусі ў адборачным турніры чэмпіянату Эўропы заставалася шэсьць дзён...**

Звышэкспрэсіўны характар галоўнага трэнэра зборнай даўно вядомы, і такія ўчынкі — у ягоным стылі. Адразу ж зьявіліся разнастайныя вэрсіі, тым больш што ў прэс-службе фэдэрацыі футболу нічога, што праліло б сьвятло на падзеі, не паведамлялі.

Першая зь верагодных вэрсіяў — Малафееву прапанавалі кантракт зь нейкім замежным клюбам на вельмі выгодных фінансавых умовах (вядома, што ў БФФ супэргрошай няма). Другая — Малафееў пасьля шэрагу перамогаў нацыянальнай зборнай і ўздыму рэйтынгу спужаўся верагоднага правалу ў стартавых гульнях адборачнага турніру. Яшчэ казалі, што галоўны трэнэр палаяўся з кіраўніцтвам фэдэрацыі падчас апошняй скандальнай справаздачна-выбарчай канфэрэнцыі, якую перанесьлі на зіму. Але самай блізкай да праўды ўрэшце выявілася вэрсія пра звычайны эмацыйны зрыў.

Зборная напярэдадні адказнай гульні апынулася ў стане, блізкім да шокавага. І якія б прычыны "псіхануць" ні былі ў Малафеева, апраўдацца яму ў выніку сыходу было б наўрад ці магчыма.



IREX-PROMEDIA

У панядзелак увечары ў Менск на першую трэніроўку сабраліся гульцы нацыянальнай зборнай, але Малафееў не зьявіўся і праводзіў яе іншы трэнэр — Валеры Стральцоў. У аўторак Малафееў зьявіўся на ранішнюю трэніроўку зборнай, але ніякіх абяцаньняў наконт далейшай працы не даваў. Улагодзіць яго здолелі толькі ўрадоўцы на чале зь віцэ-сьпікерам палаты прадстаўнікоў Уладзімерам Канаплёвым. Пасьля размовы з будучым калегам (зямляк Лукашэнкі Канаплёў мае зрабіцца прэзыдэнтам БФФ замест Рыгора Фёдарава), трэнэр раздумаў кідаць зборную. І журналістам таксама даравaў. Праўда, у выніку хваляваньняў у сераду лёг у бальніцу з гіпэртанічным крызам.

**Аляксей Шыдлоўскі**

# Пачуцьцёвая Эўфрасіньня

**Навукова-вытворчае аб'яднаньне "Агат", што вырабляе вайсковую высокатэхналягічную прадукцыю, зафундавала скульптурную кампазыцыю, прысьвечаную Эўфрасіньні Полацкай. Гэта будзе другі ў Беларусі помнік асьветніцы: першы паўстаў колькі гадоў таму ў дворыку Белдзяржунівэрсытэту.**

Стаяць амаль 4-мэтровы помнік будзе ля прахадной "Агату" — на праспэкце Скарыны, недалёка ад Маскоўскага аўтавакзалу.

Стварыў Эўфрасіньню скульптар Анатоль Арцімовіч, які праектаваў Курган Славы пад Менскам, помнікі Рагнедзе й Ізяславу ў Заслаўі, князю Барысу ў Барысаве. Паводле ягоных словаў, у 1999 г. кіраўнік "Агату" Мікалай Ільясаў прапанаваў фінансавую падтрымку: "Зь ягонай дапамогай я вырашыў зрабіць падарунак Менску да свайго 60-годзьдзя. Скульптура сьвятой Эўфрасіньні была адлітая ў 2000 г. Вяліся перамовы, каб паставіць яе ў праваслаўнай царкве сьвятой Эўфрасіньні Полацкай на вуліцы Прытыцкага".

Аднак, паводле словаў А.Арцімовіча, там помнік не ўпадабалі. Эўфрасіньня трапіла на палігон "Агату", дзе і знаходзілася да апошняга часу. Зварот да галоўнага архітэктара Менску А.Чадовіча вялікага плёну ня даў: "Ён адказаў, што абавязкова знойдзе месца для скульптуры. І мне прапанавалі на выбар тры пляцоўкі — але толькі з устаноўкай помніка ў 2005 г. Тады сп.Ільясаў надумаў паставіць помнік каля прахадной "Агату". Яго падтрымаў менскі гарвыканкам і асабіста мэр Паўлаў".

Чаму ж праваслаўная царква адмовілася ад выявы беларускай сьвятой? На думку намесьніка генэральнага дырэктара НВА "Агат" Барыса Макарчанкі, гэта адбылося з-за дужа "сьвецкага ўвасабленьня" Эўфрасіньні Полацкай: "Там яна паказаная якраз у час прыняцьця рашэньня аб манастве. На ёй ужо манаская вопратка, з-пад якой яшчэ відаць княскае ўбраньне. І нагул, атрымалася вельмі зямная маладая пачуцьцёвая жанчына".

Сфатаграфаваць пачуцьцёвую Эўфрасіньню нам не дазволілі — мауляў, помнік цяпер ляжыць і ня робіць такога моцнага ўражаньня. Дый чакаць засталося нядоўга: адкрыцьцё заплянаванае на сярэдзіну верасьня.

**Аркадзь Шанскі**

## Мірон вяртаецца

**Бадай, ніводная рыба, што водзіцца ў нашых рэках, ня мае столькі назоваў, як вусач: мірон, марона, марэна, келб, кілбун, царская рыба.** З-за пагрозы зьнікненьня яна занесеная ў Чырвоную кнігу Беларусі. Колькі гадоў ня бачылі мірона й на Аршаншчыне, рэкі якой сталі празьмерна бруднымі. Але вось радасная навіна: мірон зноў сустракаецца ў Дняпры і Аршыцы. Расьце ягоная папуляцыя. Значыць, вада стала крыху чысьцейшай. Аднак людзям у нашых рэках санітарна-эпідэміялягічная служба купацца пакуль ня раіць.



## Самалёт мяняе прапіску

**Сьпісаны з вайсковай авіяцыі самалёт Іл-14 доўгі час быў адной са славутасьцяў гораду Барань на Аршаншчыне.** Спачатку ў ім зрабілі цір, потым зьбіраліся адчыніць відэасалён. Але пляны так і засталіся на паперы. Самалёт застаўся без гаспадара. Таму ілюмінатары былі разьбітыя. Узімку дзеці коўзаліся па крылах, ствараючы небясьпечны атракцыён. Каб хуліганы не рабілі беспарадку ў салёне, давялося прыбраць трап. Нарэшце вырашана самалёт дэмантаваць. Пакуль яго пазбавілі крылаў. Па частках самалёт перавязуць на палігон МНС у Воршу, дзе ён будзе выкарыстоўвацца ў якасьці трэнажору.



**Віктар Лютынскі, Ворша**

## Мужазабойца

**Не ўдалося перахітрыць сьледчых Антаніне Мазур, жыхарцы вёскі Любішчыцы, што на Івацэвіччыне.** Хутка і спрытна яна заспакоіла свайго мужа, галоўнага энэргетыка калгасу, які сярод ночы расхадзіўся пасьля п'янкі, — засадзіла нож у грудзі, ад чаго той адразу сканаў. Каб адвесьці ад сябе падазрэньні, жанчына паклала мёртвае цела на ровар і падалася ў бок чыгункі. Дачакаўшы, калі электрычка зьнявечыць мерцьвяка, вярнулася дахаты. Можна было б усё сьпісаць на няшчасны выпадак, аднак уважлівы судмэдэкспэрт выявіў на целе рану ад нажа. Удаву ўзялі за жабры. І яна расказала пра падрабязнасьці свайго злачынства.

Жанчына атрымала чатыры гады турмы. Дзьвюх непаўнагадовых дачок забралі да сябе ейныя браты.

**Алесь Лаўранюк, Івацэвічы**

## "Відарыс" у Швэцыі

**Барысаўскі народны тэатар "Відарыс" браў удзел у II міжнародным фэстывалі аматарскіх тэатраў краінаў Паўночнай Эўропы, што прайшоў у Швэцыі**. У Беларусі няма асацыяцыі актораў-аматараў. Але Міністэрства культуры рэкамэндавала да ўдзелу ў фэстывалі барысаўскі "Відарыс". Усяго ў Швэцыю прыехалі тэатры дванаццаці дзяржаваў. Барысаўцам выпаў гонар адкрыць фэст. Дзеля паказу ў Швэцыі рэжысэр тэатру Ўладзімер Буйко паставіў спэктакль "Сьмерць доктара Фаўста" паводле п'есы бэльгійскага драматурга Мішэля дэ Гельдэрода. Налета "Відарыс" пляную паехаць на сусьветны фэстываль у Манака.

**Зьміцер Панкавец, Кастрыца**

## Dahledziać za hrošy

**Z 1 vieraśnia Baranavicki addzieł sacyjalnaj abarony pierachodzić na płatnaje absłuhoŭvańnie adzinokich pensijaneraŭ.** Z 492 čałaviek ciapieraka 129-ci za dapamohu daviadziecca płacić. Košt adnaho naviedvańnia na tydzień kaštuje 14023 rubli, a dla tych, chto žyvie ŭ pryvatnym sektary, — 17529 rublioŭ.

## Vypłyvaje rtuć

**Korpajučysia ŭ ziamli na svaim padvorku, žychar Baranavič vykapaŭ butelku z 5 kh rtuci.** Skul tamaka jana ŭziałasia, nieviadoma. Čałaviek zdaŭ znachodku ŭ MNS. A prybiralščyca Paleskaha vakzału znajšła kilahramovuju kołbu rtuci ŭ śmietnicy la vakzału. Pakul niesła jaje ŭ milicyju, dyk krychu raźliła na peronie. Daviałosia pravodzić demerkuryzacyju.

## Śviata ŭ Paŭlinavie

**U minułuju niadzielu žychary Paŭlinava, što pad Baranavičami, adznačali śviata vioski.** Pravodzilisia spabornictvy, latereja, hulni j tancy. Narodnyja majstry pradavali svaje vyraby.

**Rusłan Raviaka, Baranavičy**

in memoriam

## Змоўк голас эпохі



Сумная навіна — пайшоў ад нас Уладзімер Шаліхін. У часы майго маленства ён чытаў навіны на тэлебачаньні, гучаў па радыё, абвяшчаў выхад на сцэну маіх улюбёных артыстаў. Год ішоў за годам, лета зьмянялася восеньню, а ён — усё такі ж малады, па-джэнтэлмэнску элегантны, рухавы — усьмешкаю вітаў публіку ў філярманічнай залі, абвяшчаючы чарговы канцэртны сэзон.

Сьвятаслаў Рыхтэр быў ягоным асабістым сябрам. Галіна Чэрні-Стэфаньская раілася зь ім. Біргіт Фінільлё аднойчы публічна яго пацалавала. Расповеды пра гэтых людзей у канцы жыцьця скаліся ў цудоўную кнігу — "Пра тых, каго памятаю і люблю". Асобны падразьдзел у гэтай кнізе — Марыя Калас, якая падарыла яму гальштук. Памятаю, як ён пакрыўдзіўся на мяне, калі ў радыёперадачы, прысьвечанай Калас, я дазволіла сабе на ейны адрас нейкія крытычныя словы...

Безь ягонага голасу нашае жыцьцё будзе іншым. Менш паэтычным. Менш высакародным і ўзьнёслым. Аднак музыка, якую ён гэтак глыбока разумеў і любіў, будзе гучаць і надалей.

**Юлія Андрэева**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**У рамках агульнанацыянальнага страйку прадпрымальнікі правялі несанкцыянаваную сядзячую акцыю пратэсту на Кастрычніцкай плошчы ў Менску. Усяго ў страйку ўдзельнічаюць каля 15 тыс. прадпрымальнікаў. Урад прыняў рашэньне аб перамовах са страйкоўцамі. Дэлегацыю ўраду ўзначаліць намесьнік міністра эканомікі Андрэй Тур.**

# Картэс сышоў у гісторыю

## *Зьмена кіраўніка Опэры пацягнула страту гастроляў у Салятурне*

**У Опэры адбываецца зьмена пакаленьняў, бо галасы старэюць яшчэ хутчэй, чым людзі. Маладыя наракалі на старэйшых — маўляў, разам з дырэктарам не даюць дарогу таленавітай моладзі. Старэйшыя злавалі на моладзь, якая нібыта занадта напорыста пракладае сабе шлях праз дырэктарскі кабінэт. Ахвярай канфлікту пакаленьняў і стаўся Картэс.**



Аднак калі яго звольнілі, артыстаў агарнуў жах. Пры Картэсе ім жылося нядрэнна. Аўтар чатырох опэраў, што ўваходзяць у залаты фонд беларускага мастацтва, лібэрал, інтэлігент, знаўца замежных моваў — ён здольны быў рабіць уражаньне на замежных імпрэсарыё. Тэатар выяжджаў на гастролі, артысты зараблялі і мелі посьпех. Зараз гэтых гастроляў ня будзе. Дына Арычы, мэнэджэр фэстывалю ў Салятурне (Швайцарыя), дзе нашыя артысты выступалі шэсьць гадоў, адмовіўся ад далейшага супрацоўніцтва і налета запрасіў баўгараў.

Запаўняльнасьць залі Опэры пры Картэсе сягнула 80% (перад гэтым была 25%). Дый унікальны рэпэртуар тэатру (хіты сусьветнае опэрнае клясыкі) патрабуе клапатлівай гаспадарскай рукі.

Артысты баяліся, што дырэктарам прызначаць чыноўніка, далёкага ад тэатру і ня здольнага арганізаваць добрыя гастролі, забясьпечыць рэкляму, паклапаціцца пра рэпэртуар. Тым больш што пасаду "дырэктар і мастацкі кіраўнік" падзялілі на дзьве часткі. Мастацкі кіраўнік ужо амаль прызначаны, гэта рэжысэрка Маргарыта Ізворская-Елізар'ева. Хто будзе дырэктарам, пакуль невядома. М.Ізворская-Елізар'ева шмат гадоў працавала ў Опэры. Сярод найлепшых ейных спэктакляў — "Сэвільскі цырульнік", "Чарадзейная флейта", "Тоска". Некалькі гадоў таму, пасправаўшыся з Картэсам, яна сышла з тэатру ў Акадэмію музыкі.

**Юлія Андрэева**

удакладненьне

У "НН" ад 30 жніўня ў артыкуле "На аснове растаропшы" замест "загадчык катэдры Ўладзімер Курчанка" трэба чытаць "загадчык лябараторыі прыкладных праблем біяхіміі Ўладзімер Курчанка".

дзе варта быць

## Помнік Даноўскаму

**8 верасьня на цьвінтары ля вёскі Каралінова Пастаўскага раёну адбудзецца адкрыцьцё помніка паўстанцу 1863—64 г. Флярыяну Даноўскаму.** Па пытаньнях ад'езду зь Менску зьвязвацца праз тэлефон 233-61-89.

## Кніга Паўла Севярынца

**6 верасьня, у пятніцу, на Варвашэні, 8 адбудзецца прэзэнтацыя кнігі Паўла Севярынца "Пакаленьне Маладога фронту", прысьвечанай беларускай моладзі 1970—85 г.нар.** Кнігу ў папяровым варыянце можна будзе набыць толькі там. Хто спозьніцца — будзе шукаць у Інтэрнэце. Пачатак прэзэнтацыі а 14-й.

**Б.Т.**

## Сьвята старых машынаў

**Фэстываль рарытэтных, экзатычных, самаробных аўтамабіляў і матацыклаў пляную зладзіць у Менску 14—15 верасьня Таварыства абароны помнікаў тэхнікі і транспарту "Наша Перамога".** Выстава адбудзецца на закрытай пляцоўцы парку імя Горкага (ад вул.Першамайскай). У праграме сьвята — выстава і парад па менскіх вуліцах, а таксама конкурсы, пераможцы якіх атрымаюць прызы. Арганізатары запрашаюць да ўдзелу ўсіх, хто мае машыны й матацыклы, зробленыя раней за 60-я гады XX ст. Бэнзын — за кошт "Нашай Перамогі". Кантактны тэлефон (0296) 20-71-30.

**Паводле БелаПАН**

## пацярпелыя за Беларусь

16 жніўня сябры віцебскай філіі АГП Аляксандар Бакулін, Хведар Бакунаў, Тацяна Зайкова, Аляксандар Кабяк, Эла Канавалава, Вадзім Краўцоў, Надзея Шакаліс і Дзяніс Шман атрымалі судовае папярэджаньне за несанкцыяваную акцыю 26 ліпеня, прымеркаваную да Дня незалежнасьці. 19 жніўня "зуброўцы" Аляксандар Голуб, Ігар Закрэўскі і Сяргей Пезкін былі затрыманыя каля расейскай амбасады ў Менску. Яны спрабавалі перадаць туды заяву з пратэстам супраць паглынаньня Беларусі Расеяй. Калі пратэст ня быў прыняты, узьнялі плякаты. Судзьдзя Тацяна Паўлючук дала І.Закрэўскаму й С.Пезкіну па 10 начэй арышту, А.Голубу — 5 начэй арышту за несанкцыяванае пікетаваньне. На знак пратэсту супраць затрыманьня ўсе трое трымалі галадоўку. За пікет супраць анэксіі Беларусі ля помніка Марату Казею, зладжаны 21 жніўня, быў затрыманы "зубровец" Яўген Афнагель. 27 ліпеня судзьдзя Цэнтральнага раёну Менску Тацяна Паўлючук дала яму 10 начэй арышту Я.Афнагель у зале суду абвясьціў галадоўку. На чацьвертыя суткі ён быў шпіталізаваны ў сувязі з пагаршэньнем здароўя. Падчас расклейкі ўлётак зь перадвыбарчымі абяцаньнямі А.Лукашэнкі 23 ліпеня ў Маладэчне быў затрыманы сябра руху "Зубр" А.Сівы. З пастарунку А Сівага выпусьцілі, нават ня склаўшы пратакол: усе цытаты былі з афіцыйных абяцанак. 30 жніўня за несанкцыяваны пікет і шэсьце былі затрыманыя 7 сяброў віцебскай філіі АГП. Аляксандар Бакулін, Аляксандар Кабяк, Яўген Канстанцінаў, Аксана Краўцова, Вадзім Краўцоў, Надзея Шакаліс і Алег Шульгін. На ўсіх складзеныя пратаколы за ўдзел у несанкцыяванай акцыі. 2 верасьня суд Ленінскага раёну Горадні даў старшыню гарадзенскай філіі АГП Юр'ю Істоміну 200 тыс. рублеў штрафу за ўдзел у акцыі, прымеркаванай да 2-й гадавіны зьнікненьня З.Завадзкага.

## Дэвід Лінч у "Кастрычніку"

**6 верасьня на "Фэстывалі аднаго фільму" ў менскім кінатэатры "Кастрычнік" пакажуць стужку Дэвіда Лінча "Малхоланд драйв" (у перакладзе на расейскую).** Лінч вядомы сваімі карцінамі "Галава-ласьцік", "Дзікія сэрцам", "Блакітны аксаміт" і мыльнай опэрай са стрыхнінам — "Твін Пікс". Лінчаўскі стыль напоўніцу выявіўся і ў "Малхоланд драйве", там — дзіўная атмасфэра страху й непрадказальнасьці, дзе незвычайнае пераплятаецца з натуральным. Фільм атрымаў прызы Канскага фэстывалю, "Сэзар", Брытанскай кінаакадэміі. Паказы а 18.10 і 21.00.




**Андрэй Расінскі**

# Мілы, культурны, рафінаваны

Працяг са старонкі 1.

**З.Б.:** Маёй радні ў Ніжнім — з паўсотні чалавек, а мо і болей. Дзяліць не перадзяліць. Па бацьку ж я — несапраўдны паляк, польскай мовы ня ведаю. Дый паходзіў мой род па бацьку з Адэсы. Мой прадзед, Франц Бартосік, гандляваў рыбай на Прывозе. Таму ў мяне вялікія сумневы наконт ягонай *polskości*... Вядома, якія палякі гандлявалі рыбай на Прывозе.

**"НН": Значыць, праўду кажуць, што беларус — 50-працэнтная сумесь паляка і расейца? Зь цябе вось беларускі бард і пісьменьнік атрымаўся...**

**З.Б.:** А мог бы казахскі акын атрымацца. Таму што ў школу я пайшоў у Усьць-Каменагорску. Мае бацькі — тэатралы: ён — рэжысэр, яна — акторка, і мы ўвесь час блукалі па Расеі, пакуль не прыехалі ў Казахстан. Там я стаў усьведамляць сябе. І нават ведаў пару казахскіх словаў. Маім настаўнікам быў міліцыянт, які ахоўваў гатэль у Алма-Аце, дзе мы гастралявалі. Бацькі матляліся па ўсёй Азіі, але маці хацела адтуль вырвацца. Я быў на палове трэцяй клясы (1978 год), калі тата абрадаваў — мы паедзем *в Белоруссию*. Што такое *Белоруссия*, я ня ведаў. Нешта такое далёкае! У мяне былі асацыяцыі з Барусіяй. Мяне ўразіла, што тут людзі маюць сваю мову. Я не пачуў яе, натуральна, на вуліцах Гомелю. Але ўбачыў у шапіку часопіс "Вожык". Доўга, уражаны, ламаў галаву, што ж гэта азначае. Запытаўся ў аднакласьнікаў. Потым пачуў у радыёпастаноўцы: "На сьцяне вісела "маланка" (газэта такая школьная). Так уваходзіў у кантэкст. Я быў *освобождён* ад беларускай мовы. І яшчэ адзін чалавек з усяе клясы быў вызвалены, таксама расеец. І так выйшла, што толькі мы ўдвух можам падтрымаць гутарку на беларускай мове. Астатнім аднакласьнікам, гомельскім беларусам, гэта "ня нада, яны нармальна разгаварывают".

**"НН": А як ты, "вызвалены", патрапіў у цянёты беларускасьці?**

**З.Б.:** Я заўжды ачуваў да гэтага піетэт. Мне, нават у дзесяць гадоў, было дзіўна назіраць за абарыгенамі, у якіх ёсьць свая мова, магчымасьць стаць не Расеяй, а яны ня толькі гэтым не карыстаюцца, але й адкараскваюцца, як толькі могуць!

**"НН": А чаму табе здавалася слушным адкараскваціца ад Расеі? Табе што, уласная Радзіма недаспадобы?**




**З.Б:** Дык гэта адна з галоўных расейскіх麻раў — *жить за границей!* А людзі, якія могуць стаць "загранiцай", але пнуцца быць расейцамі, — ну гэта поўныя ідыёты. Для расейца. Можа, беларусу гэта і смачна — быць "як усе", вырвацца ў Маскву. Савецкая сэлекцыя нарадзіла такога чалавека.

## Я ня выратаваў тапельку

**"НН": А то ты не савецкі чалавек! Напэўна, і ў войску савецкім служыў. "Служу Савецкаму Саюзу!"**

**З.Б.:** Так, два гады адцягнуў у стройбаце. Будаваў Сокальскі цэлюлёзна-папяровы камбінат і Камітэт дзяржбясьпекі ў Волагдзе. Ад лета 88-га да лета 90-га. Патрапіў у апошні "загроб". Пасьля мяне ўжо беларусы дома служылі.

**"НН": Заўважана: жанчыны ўсё жыцьцё распавядаюць пра роды, а мужчыны — пра войска. Гэта вайсковыя ўспаміны змусілі цябе кнігу назваць "Чорны пісталет"?**

**З.Б.:** І назва не мая, і ідэя кнігі не мая. Усё гэта ідэі Дубаўца. Я ўвогуле нічога не зьбіраўся пісаць! Ён змусіў мяне пісаць у 1993 г. А калі за 10 год сабралася пісаніна, ён прапанаваў выдаць гэта ўсё пад адной вокладкай. Я кажу: "Ды ты што, гэта ўсё так несур'ёзна!" Я сабе пісьменьніцтва так уяўляю: сядзіць нехта за сталом набычыўшыся і піша пра герояў, там завязка, кульмінацыя, разьвязка. А Дубавец кажа: "Ты нічога не разумееш. Выдаць кніжку — гэта пэўны этап прайсьці".

**"НН": Гэта твая рука зь пістaлетам на вокладцы?**

**З.Б.:** Рука Глебуса, пісталет Сыса, здымак Алены Адамчык.

**"НН": Ты здаешся чалавекам няўрымсьлівым, які імкнецца ўсё паспытаць. Беларусы вядуць больш умеркаванае жыцьцё, спакойнае, хатняе. У цябе бурны тэмпэрамэнт?**

**З.Б.:** Абсалютна спакойны, лянівы ў мяне тэмпэрамэнт. Я большую частку жыцьця баўлю на канапе. Гэта жыцьцёвая абставіны мяне часам падкідваюць. Было і вельмі хранова, і вельмі клясна. Шмат чаго ёсьць узгадаць.

**"НН": Чытачка Н. кажа, што твая проза па-расейску разухабістая...**

**З.Б:** Ды ну ты што! Я мілы, культурны, рафінаваны інтэлігентны хлопчык. Я ня ўмею біцца, ня ўмею ўдарыць чалавека па твары. Ня ўмею прыгожа дастаць нож і ўсьміхнуцца фіксай, хаця фікса ў мяне ёсьць.

**"НН": Аднак ты ж страляў па міліцыянтах у Волагдзе? Гэта апісана ў першым апавяданьні кнігі і падобна на сапраўды перажытае...**

**З.Б.:** З газавага пісталета! Я маю толькі адну сур'ёзную гісторыю на сумленьні, яна таксама апісаная ў кнізе: я ратаваў і ня выратаваў тапельку. У вадзе мне здавалася, што яшчэ пару сэкунд — і я пайду зь ёй на дно. А на беразе — што мне не хапіла пары сэкунд, каб яе выцягнуць. У мяне не было досьведу ратаваньня, была халодная вада, ужо ляжаў сьнег. Я адпусьціў яе руку! Самы страшны досьвед, калі адпускаеш чалавека...

## Герб Расейскай імпэрыі

*Зьміцер задумваецца, апусьціўшы нос да куфля. Я пераводжу размову на легкадумнае:*

**— Тая ж чытачка Н. сьцьвярджае, што ты ўвесь у татуіроўках, страшэнна размаляваны.**

**З.Б.:** Не, не страшэнна. Сама паглядзі.

*Зьміцер, як дасьведчаны стрыптызэр, пачаў марудна расшпільваць і адсланяць кашулю з мужнага смуглага пляча. Я ня вытрымала напругі й выкрыкнула: "Няўжо Сталін?!"*

**З.Б.:** Ну, зараз. Герб Расейскай імпэрыі.

**"НН": Чаму такі выбар сюжэту?**

**З.Б.:** Я быў расейскі чалавек і амаль гатовы дысыдэнт. А тады, у 1989 г., пра вяртаньне імпэрскай сымболікі і размовы не вялося. СССР згніў, але яшчэ стаяў. Пра "Пагоню" я ня ведаў і зрабіўся беларусам ня сьніў. У мяне мара была адна: пасьля войска зачапіцца за Ніжні Ноўгарад.

## Каханьне з Інтэрнэту

**"НН": Кажуць, што ты ажаніўся. Мілосьніцы твае асобы й творчасьці — пакутуюць...**

**З.Б.:** Дзевачкі, я ж 10 гадоў хадзіў, пакутуючы ад самоты...

**"НН": А як вы пазнаёміліся з жонкай?**

**З.Б.:** Я ня веру, што можна пазнаёміцца праз Інтэрнэт. Мільёны, дзясяткі тысячаў з аднаго боку і дзясяткі тысячаў з другога марна шукаюць сваю палову ў сетках. Але бываюць шчасьлівыя збоі ў праграме. І вось такі збой адбыўся ў нашым з Таняй выпадку. Я лянотна праглядаў сайты знаёмстваў — гэта ўвайшло ў нейкую звычку. А яна не зьбіралася нікуды даваць свае зьвесткі. Проста на яе населі каляжанкі па працы: "Дай, дай, дай, дай!" Першы, хто адгукнуўся, быў я.

## Пераганяльнік машынаў

**"НН": Мне імпануе тваё простае і сьмелае прызнаньне, што ты быў самотны і шукаў пару... У нас самотныя пра гэта не прызнаюцца, сядзяць і саромеюцца. А ты нават радыёмаратон наладзіў, і 3 тысячы жанчын патэлефанавалі...**

**З.Б.:** Так, гэта было. Памятаеш, на радыё "Сталіца" была праграма "Знаёмствы ў этэры"? Я патэлефанаваў, прадставіўся пераганяльнікам аўто зь Літвы ў Беларусь. Але гаварыў па-беларуску. І пасыпаліся як з рога званкі. А я тады здымаў пакой ля ГУМу, і гаспадыня, пэнсіянэрка, вэтэранка і герой працы, пракляла мяне. Усе дзевушкі Менску хацелі пазнаёміцца зь пераганяльнікам машынаў. З гэтага нічога цікавага не атрымалася, але досьвед ёсьць досьвед.

**"НН": Дзяўчат вабіла заможнасьць пераганяльніка?**

**З.Б.:** Ня думаю, што бальшыня нашых жанчын такія тупыя, каб кідацца найперш на бабкі. Дый я сказаў, што вельмі небагаты. У мяне добры голас, я з гумарам усё гэта гаварыў, па-беларуску, што таксама плюс і інтрыгуе, бо не пісьменьнік ці "бэнээфавец" кажа, які ў ложку будзе крычаць "Жыве Беларусь!", а пераганяльнік машын...

**"НН": А ты ж сапраўды, можна сказаць, пераганяў машыну — твой зялёны, як зялёнка, запарожац.**

**З.Б:** Так, быў такі запарожац, і я па ім дагэтуль плачу і рыдаю. Гэта самая супэрская мая машына... Не, стоп, ня буду, а то мая сёньняшняя пачуе і з крыўды не завядзецца! Я на зэпары сваім езьдзіў і ў Ніжні Ноўгарад, і ў Маскву, і ў Вільню. Ніколі ён мяне не падвёў, ні разу! Я на ім наезьдзіў тысяч сорак. Ясна, што зэпар машына храновая. Нязручная і непрэстыжная. Але па ступені надзейнасьці гэты пыласмок шмат каму фору дасьць.

**"НН": А чаму ты разьвітаўся зь ім?**

**З.Б.:** Ай, дурная гісторыя. Не хачу расказваць. Гэта падобна да здрады.

**"НН": Ці ты, стаўшыся жанатым і паважным чалавекам, будзеш езьдзіць па Беларусі з Арловым?**

**З.Б:** Ясна! Што за пытаньне? Запрашайце — і мы прыедзем.

**"НН": А ўвогуле творчыя пляны якія? Бяз гэтага пытаньня, як разумееш, — нікуды.**

**З.Б.:** Я чалавек, які жыве адным днём.

**"НН": Чаму твае кнігі няма ў менскіх кнігарнях?**

**З.Б.:** Не бяруць кнігары. Толькі з-за назвы аднаго апавяданьня — "Лукашэнка памёр". Хоць там не вядзецца ані пра Лукашэнку, ані пра ягонае жыцьцё і сьмерць. А кніжку можна набыць у сядзібе БНФ. Заходзьце пад бел-чырвона-белы сьцяг і купляйце. Альбо ў "НН" праз "Кнігі — поштай". 5 тыс. каштуе.

**Гутарыла Сьвятлана Курс**




**Нашы жанчыны не такія тупыя, каб кідацца найперш на бабкі... Я з сваёй жонкай пазнаёміўся праз Інтэрнэт**



Ганна Бутырчык

**Чаму багатая Амэрыка і дзе прычыны дэградацыі беларусаў? Эсэ выкладчыцы Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Ганны Бутырчык.**



АНДРЭЙ ЛЯНКЕВІЧ

# На скрыжаваньнях

“Беларусі наканавана было апынуцца на скрыжаваньні шляхоў з захаду на ўсход, з поўначы на поўдзень”, — часта менавіта так пачынаецца знаёмства з нашай краінай. Далей звычайна гавораць пра спусташальныя войны, каталіцтва і праваслаўе, усходнія крэсы і паўночна-заходні край. Мы блізка прымаем ідэю сваёй раскрыжаванасьці на скрыжаваньні дарог і ўпадабалі ролю пакутнікаў. Але скрыжаваньне дае й выдатную магчымасьць гандлю зь іншымі. Толькі ня варта забывацца, што ў сьвету чатыры бакі. Сонца ўзыходзіць на ўсходзе, але не застаецца там цэлы дзень: уздымаецца ў зэніт (поўдзень), заходзіць на захадзе і спачывае ў калысцы поўначы. Так і сьветагляд чалавека, штодня апісвае гэтае кола. Спачатку зірнём на ўсход, потым з трымценьнем паглядзім у бок нашай колішняй Вільні, паспачуваем небагатаму жыцьцю незалежнай Украіны, якая, аднак, не аддае перавагі даляру перад грыўнай, па-добраму пазайздросьцім палякам. Як і чэхі, яны ў эўрапейскай супольнасьці пачуваюцца найбольш вольна, бо сьцьвердзілі сябе як дзяржавы нацыянальныя. Чэская і польская мовы вывучаюцца ў эўрапейскіх унівэрсытэтах, помнікі дойлідзтва ўключаюцца ў рэестар сусьветных культурных скарбаў, чыніцца інтэлектуальны гандаль. Назіраньне за працэсамі, што адбываюцца ў іншых краінах, вывучэньне іх культурнай спадчыны дазваляюць глыбей разумець сябе і іншых, пераймаць станоўчы досьвед і ўнікаць памылак.

Каб зразумець прычыны паступовай дэградацыі беларусаў, я зьвярнулася да краіны, якую многія называюць бездухоўнай, але якая дала сьвету Ўолта Ўітмэна, Эдгара По, Джэка Лёндана, Уільяма Фолкнэра, у якой знаходзяцца найбуйнейшыя калекцыі сусьветных скарбаў, у навучальных установах якой працуюць найлепшыя прадстаўнікі сусьветнай інтэлігенцыі. Гэта краіна, дзе культура — гэта палітыка, стварэньне ўмоваў для творчай рэалізацыі асобы, у той час як Беларусь — краіна, дзе палітыка прэтэндуе на ролю культуры. Мой чарговы візыт у ЗША прыпаў на верасень. І праз два тыдні пасьля трагедыі скрозь водар дажджу праступаў гаркавы пах дыму. Здавалася, што жыцьцё на імклівым Мангэтане запаволілася. Вуліцы пазіралі засяроджанымі тварамі паліцэйскіх. На скрыжаваньнях прапаноўвалі танныя парасоны і нацыянальныя сьцягі. Амэрыканскія сьцягі былі амаль на кожнай машыне, штандарамі ў вокнах дамоў, на сталах у кавярнях, у руках мінакоў. Тое, што ў Беларусі абразьліва называюць нацыяналізмам, у Амэрыцы ёсьць праявай патрыятычных пачуцьцяў грамадзян.

У Амэрыцы спрадвеку соцыюм (грамада) вышэйшы за дзяржаву. Вартасным прызнаецца калектыўнае мысьленьне, ствараюцца ўмовы, пры якіх фактычна немагчымае вылучэньне пасіянарнай асобы, кшталту Напалеона альбо Сталіна. Эканоміка задае тон палітыцы.

У Беларусі дзяржава сталася сапраўдным апаратам гвалту над чалавечай самасьцю. Дзяржава ўзяла на сябе функцыі першых амэрыканскіх каляністаў, што разгарнулі шырокі наступ на цывілізацыю карэннага насельніцтва, якую неабходна было зьнішчыць, каб на яе руінах узьвесьці новую. Але для амэрыканцаў гэта была чужая зямля, якую належала зрабіць сваёй. У нас працэс акурат адваротны — адчужэньне сваёй зямлі.

Амэрыка фармавалася пераважна як мужчынская краіна. Доўгае падарожжа морам маглі вытрымаць толькі дужыя фізычна людзі, якія на новай тэрыторыі пачыналі жыцьцё наноў. Мужчынскі пачатак выяўляўся і ў імкненьні заваёўваць, і ў арыентацыі менавіта на соцыюм. Беларусь — краіна з жаночым пачаткам. Яе лёс — бараніцца. Тут істотную ролю адыгрываюць сямейныя стасункі. Многія мае знаёмыя амэрыканцы дзівяцца, чаму ў нас захоўваецца такая цесная сувязь паміж бацькамі і дзецьмі. Нагодай таму — не да канца зьнішчаны мэханізм пераемнасьці. Сям'я дапамагае засвоіць і пераасэнсаваць скарб, назьбіраны папярэднімі пакаленьнямі, тую сыстэму агульначалавечых каштоўнасьцяў, паводле якой чалавек вымярае свае ўчынкі. Нацыянальная спадчына ў беларусаў бруіцца з захаваньня памяці продкаў, звычаяў, традыцый, сьветаўяўленьняў, прынятых у асобна ўзятай сям'і.

У Амэрыцы амаль няма гэткага руху па вэртыкалі. Тут кожнае новае пакаленьне ўсталёўвае нормы адносінаў у грамадзтве, прыдатныя менавіта для яго. Нацыянальная мова і традыцыі захоўваюцца ў большасьці эмігрантаў толькі ў першым-другім калене. Гэта цікавае поле дасьледаваньня для лінгвістаў. Ужо ў першым калене адбываецца калькаваньне граматычных формаў ангельскай мовы: “я буду браць аўтобус” (*take a bus*) замест “я паеду аўтобусам”, “я выбег з алоўкаў” (*I run out of pencils*) замест “у мяне скончыліся алоўкі”, “я сустрэў нікога” (у ангельскай няма падвойнага адмаўленьня); увядзеньне ў тканіну сваёй мовы ангельскіх словаў: “І з такім эксьпірансам (*experience* — досьвед) ты спадзяешся адшукаць работу?” Альбо, гаворачы ангельскай мовай паміж сабой, ня-носьбіты наўмысна выкарыстоўваюць інтанацыйную афарбоўку сваёй мовы. Гэтую зьяву адлюстраваў Стэйнбэк у рамане “На ўсход ад Эдэму”. Аўтар падае вобраз кітайца Лі, які нарадзіўся ў ЗША, куды ягоныя бацькі прыехалі ў пошуках заробку. Добра валодаючы ангельскай, ён, аднак, карыстаецца своеасаблівай кітайскай тарабаршчынай, якая выступае атрыбутам нацыянальнай прыналежнасьці героя. Лі тлумачыць, што, калі будзе гаварыць звычайнай ангельскай мовай, людзі перастануць яго разумець, бо чакаюць пачуць ад кітайца менавіта піджын (англа-кітайскую гібрыдную мову). Іншай праявай гэтага працэсу выступае той факт, што ў сувязі з ростам насельніцтва (пераважна з Мэксыкі) у паўднёвых штатах Амэрыкі зьяўляецца так званы *Spanglish*. Дасьледнікі адзначаюць пашырэньне культуры чыкана (амэрыканскіх гішпанцаў). Нават у Нью-Йорку ўсё часьцей на вочы трапляюцца шыльды на дзьвюх мовах.

Сродкам аб'яднаньня нацыі ў супольнасьць у Злучаных Штатах выступае рэлігія. Тут абвешчана свабода веравызнаньня, і прынамсі раз на два тыдні сярэднестатыстычная сям'я выбіраецца ў касьцёл, царкву ці малельны дом. У беларусаў рэлігія сталася дзейнай зброяй апалячваньня ці русіфікацыі. Зрэшты, нашыя вераваньні не абмяжоўваюцца хрысьціянствам, бо продкі беларусаў зьведалі і паганства зь ягонай надзвычай багатай міталёгіяй. Таму не загінулі мы і нашая культура ў часы атэізму: акрамя хрысьціянскай веры, якая рэглямэнтуе паводзіны чалавека ў грамадзтве, беларусы мелі веру даўніх продкаў, якая вызначае дачыненьні чалавека і Прыроды, бо чалавечы род з Пры-роды выйшаў. У амэрыканцаў няма гэтага пры-роднага пачатку, адсюль моц рэлігіі, якая рэглямэнтуе паводзіны ў грамадзе. Першыя ангельскія пасяленцы Новую Англію лічылі зямлёй абяцанай, куды Бог прывёў “абраны народ” — пурытанаў. Таму біблейская тэма чырвонай ніткай праходзіць праз усю амэрыканскую літаратуру. А ў нас біблейскія вобразы праступаюць праз тканіну народных вераваньняў.

> *Тое, што ў Беларусі абразьліва называюць нацыяналізмам, у Амэрыцы ёсьць праявай патрыятычных пачуцьцяў грамадзян.*

Амэрыканская культура зьвяртаецца да біблейскіх узораў. Так, знакаміты раман Г.Мэлвіла пачынаецца са словаў “Клічце мяне Ізмаіл”, і гэтага было дастаткова, каб перад сучасьнікамі аўтара, якія добра ведалі тэкст Сьвятога Пісьма, паўставаў вобраз выгнаньніка, асуджанага на вечныя вандраваньні. У “Гронках гневу” Дж.Стэйнбэка падаецца вобраз праведніка Джыма Кейсі (першыя літары імя ў ангельскім варыянце павінны выклікаць асацыяцыі з Ісусам Хрыстом — **J**im **C**asy — **J**esus **C**hrist), што нясе ў сьвет сваю філязофію — жыць у грамадзе і любіць усіх людзей.

У беларускай культуры найчасьцей адлюстроўваўся рух па вэртыкалі: груша як увасабленьне сядзібы ў Караткевіча ці Быкава, таполя як сымбаль бацькаўшчыны ў Кузьмы Чорнага, знакамітыя дубы Якуба Коласа. У амэрыканскай культуры адлюстраваны рух па гарызанталі, што выявілася ў пераважна жывёльнай сымболіцы. На пачатку амэрыканскай літаратуры з расьліннасьці знаходзім толькі лісьце травы ў У.Уітмэна і гронкі гневу ў Дж.Стэйнбэка, затое жывёльная сымболіка прадстаўленая шырока: белы кіт у Г.Мэлвіла, чарапаха і мышы Дж.Стэйнбэка, мядзьведзь У.Фолкнэра, ваўкі Дж.Лёндана. Зьвернем увагу — калі ў беларуса пытаюць пра мінулае, кажучы: “А дзе (адкуль) твае карані?”, альбо “Чыя ты будзеш?”, у амэрыканцаў — найчасьцей пра *background* (вытокі, паходжаньне, біяграфічныя дадзеныя, але таксама і кваліфікацыя, падрыхтоўка і жыцьцёвы досьвед).

...Водар кавы, што вітальна бруіўся з расчыненых дзьвярэй кавярняў і офісаў, усё часьцей перапыняў мае думкі. Раніца на Мангэтане пачынаецца з водару кавы. Памятаю, нейк у Менску прайшла ўранку па праспэкце Скарыны ад Маскоўскай да Кастрычніцкай і не знайшла ніводнай адчыненай кавярні. Мусіць, у нас не прынята піць каву да дванаццатай. Затое паесьці любім добра, са смакам: бульбы са скваркай (і халестэрын нас не бярэ), баршчу са сьмятанай і ладным кавалкам мяса, капусткі і гурочкаў салёненькіх, грыбкоў марынаваных... Ды ніводзін амэрыканец, акрамя шампіньёнаў, іншых грыбоў ня ведае. А слова “тварог” увогуле не існуе ў ангельскай мове. Нехта з маіх аднаклясьнікаў падчас нашага першага візыту ў Штаты трапна пажартаваў, што слова *bread* на нашую мову не перакладаецца, як і слова *хлеб* на іхную, бо абазначаюць абсалютна розныя паняткі. Дык чаму тады нашыя дзеці іхнімі гамбургерамі і чызбургерамі не даюць спакою бацькам?

У амэрыканцаў так званая *fast-food* (хутка прыгатаваная ежа) — частка нацыянальнай культуры, што абумоўлена шпаркім бегам жыцьця, калі кожная хвіліна на рахунку. У нас значная колькасьць насельніцтва ходзіць на працу, каб не сядзець дома, таму ў абед можна не сьпяшаючыся зьесьці хатніх катлетак, бліноў, пагрэць кіпяцільнікам у шклянцы якога супчыку. А ўжо якіх прысмакаў ні знойдзеш за сталом сьвяточным! І пры гэтым усе скардзяцца, што жывуць небагата. Дапамагаюць лецішчы — фэномэн, таксама недаступны амэрыканскай сьвядомасьці.

У гэтых разважаньнях я дайшла да скрыжаваньня 5-й авэню і 42-й вуліцы. У цэнтры Мангэтану цяжка заблукаць: гарызанталі вуліц перакрыжоўваюцца з вэртыкалямі авэню, і кожная мае свой нумар. Заходжу ў Нацыянальную бібліятэку (*Public Library*), дзе сабраныя культурныя скарбы з усяго сьвету. Амэрыканцы маюць дзіўную здольнасьць захоўваць самыя нечаканыя рэчы. У адным з тамтэйшых музэяў бачыла вялікі стэнд з бутэлечнымі коркамі розных часоў — і гэта іх таксама цікавіць. Зрэшты, “цікавіць” — недакладнае слова. Лепш сказаць: і гэта яны зьбіраюць, бо далёка ня ўсё сабранае цікавіць амэрыканцаў. Нават у адной з самых буйных карцінных галерэяў, “Мэтраполітэне”, найчасьцей пачуеш расейскую ці японскую гаворку.

“А ці не замовіць мне “Дзікае паляваньне караля Стаха”? — думала я, ідучы ў чытальную залю. Лёгіка была простая: калі ў Амэрыцы ёсьць беларусы, у бібліятэцы павінен быць Караткевіч. Дзяўчына, што мусіла выканаць маю замову, крыху зьбянтэжылася, пабачыўшы кірыліцкія літары, а пасьля папрасіла прабачэньня за тое, што кніга будзе толькі праз гадзіну, бо знаходзіцца ў іншым будынку.

“Па верасе, па гіблай дрыгве скача дзікае паляваньне і будзе скакаць да тых часоў, пакуль існуе сьвет. Яно — наша зямля, нелюбімая намі і страшная. Зьлітуйся з нас, Божа!” — менавіта гэтыя словы прыходзілі на памяць. Вось ён, ключ да нашай мэнтальнасьці — дзікае паляваньне, якое ладзім мы самі супроць сябе. Хто ў сьвеце больш, як мы, ня любіць сваёй Бацькаўшчыны? Не расейцы з палякамі вінны, што ў кнігарнях амаль няма беларускіх кніжак, а ў межах дзяржаўнага ўнівэрсытэту даводзіцца змагацца за беларускую мову, якая нібыта пазбаўляе студэнта права вольнага выбару. Кузьма Чорны ў рамане “Пошукі будучыні” распавёў пра Вялікага злодзея, у якім каго і чаго толькі ні бачылі, і так рэдка — уласнае адлюстраваньне, тое жахлівае, што хаваецца ў чалавеку. Можа, варта зазірнуць у гэтае люстэрка, каб жахнуцца ўласнай пачварнасьці? Каб самім сабе сказаць: не, мы — не такія. І тады кожны з тутэйшых людзей, патрапіўшы ў Штаты, абавязкова адшукае час, каб пакланіцца помніку Купалы ці памаліцца ў царкве Эўфрасіньні за род свой і Айчыну.

# Сыстэмныя дасьледаваньні небясьпечныя для ўлады

**Незапатрабаванасьць, што сталася вынікам зьнікненьня дзяржаўных абаронных замоваў, прадстаўнікі дакладных навукаў адчуваюць моцна. Гутарка зь фізыкам Ігарам Міклашэвічам пра стан беларускай навукі.**

**“НН”: У якім стане цяпер беларуская фізыка?**

**Ігар Міклашэвіч:** Ёсьць вельмі просты крытэр для вызначэньня: калі навукоўцаў згадваюць у сьвеце — яны існуюць, калі не — значыць, не. Беларускую фізыку ў сьвеце ня згадваюць і на нашыя навуковыя працы не спасылаюцца. І ніякія мэдалі тут не дапамогуць.

**“НН”: А беларускіх фізікаў ведалі?**

**І.М.:** Так, імя Хведара Фёдарава добра вядомае знаўцам. Карані вядомага фізыка Лява Арцымовіча таксама тут, у Беларусі, хоць сам ён ніколі, здаецца, ня згадваў пра паходжаньне... Можна згадаць яшчэ сяго-таго.

**“НН”: А чаму “зьнікла” навука?**

**І.М.:** Маладыя зьяжджаюць, людзі сталага веку пастарэлі і ўжо нядатныя разьвіваць новыя кірункі. Яны могуць разьвіваць толькі тое, у чым ужо спэцыялізуюцца. Дадайце да гэтага праблемы з атрыманьнем навуковай інфармацыі. У бібліятэках (нават Нацыянальнай і Акадэмічнай) зьменшылася колькасьць падпісных выданьняў — добра, калі засталося 10%. Не паступалі або траплялі зь вялікімі перапынкамі часопісы *“Physic review”, “Physica”, “Physica status solidi”*...

**“НН”: А Інтэрнэт?**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Ігар Міклашэвіч — кандыдат фізыка-матэматычных навук, дацэнт Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўнівэрсытэту. Паводле адукацыі — фізык-тэарэтык, цяпер займаецца праблемамі мэханікі.

**І.М.:** Нашыя бібліятэкі падпісаліся на электронную рассылку навуковых часопісаў — гэта таньней, чым друкаваныя варыянты. Але ўлічыце хуткасьць працы нашага Інтэрнэту, абмежаваны час працы... У навукоўцаў няма магчымасьці хадзіць па інфармацыю 4—5 дзён запар. Здавалася б, дробязь, але яна мае вялізнае значэньне.

**“НН”: Ці дапаможа навуцы “ўзьняцца” рэарганізацыя Акадэміі навук?**

**І.М.:** Я ня ведаю канцэпцыі гэтай рэформы. Магчыма, яна недзе ёсьць, але не выходзіць на паверхню: ніякіх сур’ёзных матэрыялаў не друкавалі. А дзейнасьць, пра якую ніхто ня ведае, ня ёсьць дзейнасьцю.

Ва ўсіх зьменах, якія прапануюць разнастайныя дзяржаўныя структуры, няма сыстэмнасьці. Бо сыстэмныя дасьледаваньні сёньня непатрэбныя. І небясьпечныя для ўлады: яны паказваюць ейныя слабыя месцы — тое, чаго яна не павінна была ніколі рабіць, але робіць.

**“НН”: Навошта робіць?**

**І.М.:** Рэпрэсіўная ўлада зацікаўленая ў зьніжэньні інтэлектуальнага ўзроўню насельніцтва — так лягчэй кіраваць. Гэта палітыка ўжо не асобных людзей, што ва ўладзе, а самой сыстэмы, якая імкнецца захавацца. Мы настолькі “законсэрваваныя”, што нас абмінаюць усе сусьветныя навалы, катаклізмы. У фантастыцы гэта б назвалі “згорнутай цывілізацыяй” — цывілізацыяй, якой нічога ня трэба, якая нічым не цікавіцца.

**“НН”: Чаго чакаюць беларускія навукоўцы ад зьезду, прызначанага на лістапад, дата якога пэрыядычна пераносіцца?**

**І.М.:** Робіцца гэта ўсё дзеля палітычных мэтаў. Па-мойму, галоўная мэта зьезду — падтрымаць курс Лукашэнкі. Той курс тычыцца мо 5% навукі: сацыялёгіі, паліталёгіі... А фізыкі, біялёгіі, хіміі й г.д. палітычны курс Лукашэнкі ніяк ня тычыцца. Навука ставіцца да ягонае асобы індыфэрэнтна.

Іншая рэч, што *сыстэма* не адчувае патрэбы ў навуцы. Таму і зьяўляюцца праблемы і ў фізыкі, і ў хіміі... Савецкая навуковая сыстэма, пры ўсёй ейнай заганнасьці, праводзіла сэлекцыю і выяўляла таленавітых: пасады прафэсара, дацэнта лічыліся высокааплатнымі. Цяпер яны атрымліваюць капейкі. Таленавітыя людзі проста ня хочуць працаваць за нішто.

Пакуль адчуваньне непатрэбнасьці будзе панаваць у сыстэме, навука будзе занепадаць. І нават павелічэньне колькасьці ВНУ нічога ня зьменіць. Бо там не рыхтуюць высакаякасных спэцыялістаў, а проста на 5 гадоў падаўжаюць школу.

Замежжа таксама ня будзе ўкладаць грошы ў дасьледаваньні, накіраваныя на разьвіцьцё ў нас тэхналёгіяў. Краіны, якія генэруюць ідэі, могуць укладаць грошы і тэхналёгіі туды, дзе здабываецца сыравіна, але не туды, дзе нешта прадукуецца (як у Беларусі). Гэта адчуваем ня толькі мы. Нямецкія навукоўцы таксама скардзіліся на сваю “другаснасьць” у параўнаньні з амэрыканскімі тэхналёгіямі. Толькі гадоў пяць таму яны зразумелі, што няма сэнсу капіяваць амэрыканскія тэхналёгіі — трэба ствараць сваё і потым абменьваць новае на новае. А не паўтараць тое, што ўжо зрабіла Амэрыка.

**“НН”: Але Японія жыве без фундамэнтальнай навукі.**

**І.М.:** Так, у Японіі няма навукі, там ёсьць толькі высокія тэхналёгіі. Калі расейскі, амэрыканскі навуковец абгрунтуе гіпотэзу, ён ня стане яе далей распрацоўваць — яму гэта ўжо не цікава. Але набягуць паўтары сотні японцаў, абсмокчуць гэтую ідэю з усіх бакоў і распрацуюць пад яе высокія тэхналёгіі.

**“НН”: У якой сфэры магчымы быў бы “беларускі навуковы прарыў”?**

**І.М.:** Магчыма, у мэдыцыне. Хоць навуку рухаюць наперад асобы, адзінкі, таму геніі могуць зьявіцца ў нечаканай сфэры. Навуковыя калектывы толькі дапамагаюць апрацоўваць ідэі гэтых адзінак.

**Гутарыў Адам Воршыч**

генэтыка

# Паляпшэньне чалавека

**У апошні год XX ст. навукоўцы цалкам расшыфравалі чалавечую ДНК — раскрылі пасьлядоўнасьць нуклеатыдаў усіх храмасом. Выявілася, што ў чалавека каля 40 тыс. генаў, прычым у розных людзей адрозьніваецца ня больш за 0,1% нуклеатыднай пасьлядоўнасьці, а 99,9% геному аднолькавыя ва ўсіх расаў і народаў. Геном чалавека і шымпанзэ супадае на 99% чалавека і мышы — на 90% і нават у людзей і бактэрый 600 генаў аднолькавыя!**

Так што недалёка мы адарваліся ад малпаў і грызуноў, хоць менавіта нам, а ня ім выпаў гонар зазірнуць у свой геном. Але што ж мы з таго маем?

Генэтыка з апісальнай усё больш робіцца функцыянальнай. Высьвятляюцца мэханізмы многіх хваробаў. Справа ў тым, што геном — біялягічная спадчына, зашыфраваная з дапамогай нуклеінавых кіслотаў, — можа зьмяняцца, і гэта завецца мутацыямі. Калі мутацыі адбываюцца ў полавых клетках або клетках зародку, узьнікаюць спадчынныя немачы або выродзтвы. Калі ж мутацыі з адмоўным эфэктам здараюцца ў клетках дарослага арганізму, зьяўляюцца анкалягічныя, аўтаімунныя, абменна-эндакрынныя ды іншыя хваробы.

Узровень мутацыяў наўпрост залежыць ад асяродзьдзя. За апошнія 120 гадоў сынтэзавана 60 тыс. новых хімічных рэчываў, узьнікла штучная радыяцыя. Гэта павялічвае колькасьць мутацыяў і абцяжарвае чалавецтва так званымі экагенэтычнымі хваробамі.

Сёньня пашыраецца меркаваньне, што жыцьцё чалавека прадвызначанае, што ў храмасомах наперад запраграмаваны характар, тэмпэрамэнт, схільнасьці, хваробы і г.д. Аднак такі фаталізм не заўсёды апраўданы, бо шмат залежыць і ад асяродзьдзя, і ад чалавека. Характарыстыка фактараў, якія ўплываюць на здароўе ў разьвітых краінах, паказвае, што 8—14% іх прыпадае на ўзровень мэдычнай дапамогі, 48—50% абумоўлена побытам і ладам жыцьця, 20—22% — навакольным асяродзьдзем, а генэтычныя фактары абумоўліваюць здароўе на 18—20%.

Як бачым, толькі пятая частка — спадчына, што склалася цягам эвалюцыі і якую зьмяніць немагчыма. Але ж можна паўплываць на новыя мутацыі, што ўзьнікаюць цягам нашага жыцьця і стымулююцца паленьнем, алькаголем, побытавай хіміяй, кепскай экалёгіяй.

Мроіць аб умяшальніцтве вучоных у геном ды іншых праэктах “паляпшэньня чалавека” пакуль яшчэ рана: веды аб дзеяньні генаў пакуль мізэрныя і для практыкі можа зьявіцца нямала перашкодаў. Напрыклад, шматфункцыянальнасьць гену (адказнасьць яго адразу за некалькі працэсаў), спантанная блякіроўка ці запуск гену ў залежнасьці ад часу ці розных абставінаў, наяўнасьць нехрамасомных і нават немалекулярных мэханізмаў перадачы спадчыннасьці і г.д. Дый шырокае ўмяшальніцтва ў спадчыннасьць чалавека можа мець непрадказальныя грамадзкія, маральныя і біялягічныя наступствы. Такія, як развал біполавай сям’і, зьнікненьне грані між нормай і паталёгіяй, разбурэньне эстэтычных і духоўных каштоўнасьцяў, “правалы” ў эвалюцыі асобных індывідаў і цэлых грамадзтваў. Але пакуль “геномныя тэхналёгіі” настолькі дарагія, што іх шырокае прымяненьне праблематычнае. Разам з тым, найбольш модней і прыбавай прафэсіяй XXI ст. будуць не інфармацыйныя, а менавіта біятэхналёгіі, якія, нягледзячы на юрыдычныя ці маральныя перашкоды, будуць разьвівацца.

А што сёньня рэальна можа прапанаваць нам генэтычная навука? Па-першае, мэдыка-генэтычнае кансультаваньне для ахвотных стварыць сям’ю і генэалягічны аналіз будучых бацькоў. Па-другое, мэтады дародавай дыягностыкі (выяўленьне паталёгіі плоду з дапамогаю ультрагуку, апаратычных і лябараторных мэтадаў). 10% жанчын маюць патрэбу ў паглыбленым дародавым дасьледаваньні, бо прыкладна ў такой колькасьці цяжарных рызыка выродзтваў і храмасомных хваробаў дастаткова высокая. Па-трэцяе, перадімплянтацыйная дыягностыка — новы мэтад выяўленьня спадчынных хвароб на стадыі зародкавай клеткі, што дазваляе пазьбегнуць спаронаў у жанчын з высокай верагоднасьцю спадчыннай паталёгіі. Па-чацьвертае, экстракарпаральнае апладненьне — зачацьце плоду ў прабірцы з дапамогай мужчынскага семя партнэра ці донара, з наступным увядзеньнем да ўлоньне маці. У Беларусі ўжо ёсьць некалькі дзясяткаў дзяцей, народжаных такім чынам. Па-пятае, дыягностыка спрэчнага бацькоўства, якая выкарыстоўваецца ў судова-мэдычнай практыцы. Сучасны аналіз ДНК дзіцяці і бацькі (або маці) дазваляе амаль са стопрацэнтнай гарантыяй высьветліць біялягічнае бацькоўства.



Сярод найноўшых практычных дасягненьняў генэтыкі — і стварэньне новых тыпаў лекаў ды вакцынаў на грунце геномнай інфармацыі. Біямэдычныя тэхналёгіі спараджаюць новыя маральныя і прававыя канфлікты, якія цяжка разьвязаць у рэчышчы біблійных ці хрысьціянскіх прынцыпаў. Новыя тэхналёгіі патрабуюць новай маралі і новых законаў. Яны, пэўна, зьявяцца ў XXI ст. — у эпоху “генэтычнай рэвалюцыі”, новых тэхналёгій і невядомых дасюль спакусаў.

**Васіль Аўраменка, Магілёў**

# Сьцеражыцеся танных аўтамабіляў!

**Вялікія паводкі, якія абрынуліся сёлета на Нямеччыну, Чэхію, могуць істотна зьнізіць цэны на рынку патрыманых легкавых аўтамабіляў.**



Стыхія зачапіла склады шэрагу аўтамабільных вытворцаў і дыстрыб'ютараў, у прыватнасьці, чэскай “Шкоды”. Была затопленая вялікая колькасьць машынаў. І хоць прадстаўнікі канцэрну запэўніваюць, што пашкоджаныя аўтамабілі прадавацца ня будуць, незалежныя імпарцёры могуць не ўтрымацца ад спакусы зарабіць на пацярпелых аўто. Аўтапераганяльнікі дагэтуль памятаюць, як пасьля паводкі 1997 г. на рынку ўжываных аўтамабіляў зьявілася шмат нечувана танных машынаў і некаторыя фірмы (напрыклад, “Фіят”) вымушаныя былі ўводзіць скідкі, каб падтрымаць цікавасьць да сваёй новай прадукцыі.

Ня дзіва, што пацярпелыя ад паводкі аўто таньнеюць: вада, глей і бруд моцна шкодзяць кузаву і перш за ўсё рухавіку. Затопленыя аўтамабілі трэба адразу адпраўляць на звалку. Але на іх знаходзяцца як прадаўцы, так і пакупнікі, якія часта ня ведаюць пра дэфэкты аўтамабіляў: прасачыць іхнае паходжаньне пры імпарце з-за мяжы бывае складана.

Парадаксальна, але імпарту такіх машынаў можа спрыяць і наяўная ў многіх краінах сыстэма мытных пошлінаў, закліканая зьменшыць наплыў на рынак патрыманых аўтамабіляў. Навюткія (хоць і затопленыя) машыны абкладаюцца мінімальнымі пошлінамі, што ў сукупнасьці зь нізкай пачатковай цаной робіць іх дужа прывабнымі для недасьведчаных пакупнікоў.

У Беларусі за машыну, якой менш за 3 ці больш за 10 гадоў, цяпер трэба плаціць з разьліку 0,55 эўра за 1 куб.см аб'ёму рухавіка (на 0,05 эўра болей, чым раней). На астатнія іншамаркі мытныя пошліны складаюць 0,35 эўра за 1 куб.см.

# Вадарод замест нафты

## *Запасаў новага паліва зямлянам хопіць на мільярд гадоў*

**Пры дапамозе лазэраў можна прымусіць цяжкі вадарод уступіць у рэакцыю тэрмаядзернага сынтэзу, падобную да той, што адбываецца ў цэнтры Сонца, і вырабляць энэргію ў прамысловых маштабах, даводзяць японскія і брытанскія навукоўцы на старонках часопісу *“Nature”*.**

Ядравую энэргію можна вызваліць двума спосабамі: расшчапляючы ядры цяжкіх элемэнтаў (такіх, як уран ці плютоній) або злучаючы ядры лёгкіх элемэнтаў (вадароду ці яго цяжэйшых ізатопаў — дэйтэрыю і трытыю).

Пакуль людзям прасьцей расшчапляць цяжкія атамы, а з сынтэзам лёгкіх элемэнтаў цяжэй. Дагэтуль удалося стварыць толькі вадародную бомбу — найстрашнейшую зброю масавага зьнішчэньня. Электрастанцыяў яшчэ няма, хоць спробы пабудаваць тэрмаядравы рэактар трываюць больш як паўстагодзьдзя. Намаганьні фізыкаў у гэтым кірунку часта параўноўваюць з пошукамі чашы Грааля. Посьпех азначаў бы для нашай цывілізацыі доступ да бясьпечнай і практычна невычарпальнай крыніцы энэргіі.

### Антыпатыя ядраў

“Да працы над праблемай тэрмаядравага сынтэзу нас заахвочвае ўсьведамленьне, што энэргія, якую можна атрымаць з напарстка вадкага паліва (напрыклад, цяжкага вадароду ці дэйтэрыю), эквівалентная той, якую даюць 20 тонаў вугалю”, — тлумачыць у *“Scientific American”* Джэралд Джонас, кіраўнік лябараторыі *“Sandia National Laboratories”*. Колькасьць дэйтэрыю ў Сусьветным акіяне ацэньваецца ў 40 більёнаў тонаў, якіх пры сучасным узроўні спажываньня чалавецтву хапіла б на мільярд год. Гэтая энэргія была б экалягічна чыстай, бо прадуктам рэакцыі зьяўляецца чысты гелій, а не радыеактыўныя адкіды. Навукоўцы бачаць небясьпеку толькі ў хуткіх нэўтронах, якія ўзьнікаюць у часе рэакцыі і могуць “апраменьваць” сьцены рэактару.

Дамагчыся тэрмаядравага сынтэзу (злучэньня атамных ядраў) вельмі складана: дадатна зараджаныя ядры адштурхоўваюцца адно ад аднаго — і тым мацней, чым меншая між імі адлегласьць. Каб распачалася рэакцыя, іх трэба сутыкнуць паміж сабой. Як гэта зрабіць?

У цэнтры Сонца вадародная плязма разагрэтая да тэмпэратуры ў некалькі дзясяткаў мільёнаў градусаў. У такім “пекле” атамныя ядры разбураюцца вельмі хутка. Плязма знаходзіцца пад велізарным ціскам, так што атамныя ядры таўкуцца ў малым аб'ёме і часта “падаюць” адно на другое. Так пераадольваюцца бар'еры адштурхоўваньня і пачынаецца ядравы сынтэз — вадарод ператвараецца ў гелій.



Навукоўцы спрабуюць узнавіць умовы, падобныя да сонечных, у зямных лябараторыях, падаграваючы дэйтэрыева-трытыевую плязму. Паколькі ніводзін матэрыял не вытрымае тэмпэратуры ў мільёны градусаў, плязму зьмяшчаюць у вакууме ў пастку з магнітнага поля і стараюцца ўтрымаць там як мага даўжэй. Рэакцыі тэрмаядравага сынтэзу ўдалося дасягнуць толькі на пачатку 90-х, сьпярша ў Эўропе, а пазьней у ЗША (Прынстан). Але да посьпеху было яшчэ далёка: спробы “запаліць” ядравы рэактар забіраюць больш энэргіі, чым ён пасьля дае. Асьцярожныя падлікі гавораць, што першая электрастанцыя такога тыпу можа быць збудаваная толькі пасьля 2030 г. Гэта адбівае ў вучоных ахвоту працягваць дасьледаваньні, а ў спонсараў — даваць на іх грошы.

### Міні-бомбачкі

Але пэрспэктыва зацугляньня тэрмаядравай энэргіі можа вывіцца не такой і далёкай. Шанцы наблізіць яе дае група брытанскіх і японскіх вучоных, якая прапанавала цалкам новы спосаб дасягненьня сынтэзу.

Навукоўцы вырашылі скарыстаць для атрыманьня энэргіі той самы мэханізм, які выклікае яе імклівае вызваленьне ў вадароднай бомбе. Так, ніводная электрастанцыя ня вытрымае выбуху, які ў свой час зьнішчыў атол Бікіні, але ж можна зьменшыць бомбу да памераў макавага зярнятка і выклікаць кантраляваныя мікравыбухі!

У вадароднай бомбе запальны мэханізм пабудаваны на зьвяе ядравай бамбардзіроўкі. Вадародны зарад у ёй атачаны шчыльнай пенай з пластыку. “Звычайная” атамная бомба дзейнічае як запал. Інтэнсіўнае рэнтгенаўскае выпраменьваньне, якое спадарожнічае яе выбуху, дасягае слою пластыку, разагравае яго і ператварае ў плязму, якая імкліва пашыраецца. Яна зь велізарнай хуткасьцю імкнецца вонкі, і адначасова процілеглы імпульс, скіраваны ўсярэдзіну, сьціскае вадарод, выклікаючы ягоны выбух.

### З лазэрам

Ужо ў 70-я гады была выказана думка, што тэрмаядравы сынтэз можна выклікаць і без удзелу атамнай бомбы. Хапіла б аднаго выпраменьваньня, напрыклад лазэрнага, настолькі моцнага, каб імкліва разагрэць слой вакол вадароднага паліва. Ад ідэі адмовіліся, бо лазэры тады былі занадта слабыя, каб дастаткова моцна сьціснуць газ. Вярнуліся да яе ў другой палове 90-х, калі ўдалося сканструяваць лазэры магутнасьцю ў пэтават ($10^{15}$ ват).

Першыя экспэрымэнты былі ўдалыя. Лазэрам награваліся маленькія шарыкі з полістырэну, напоўненыя дэйтэрыем. Пластык ператвараўся ў плязму і выбухаў, а шчыльнасьць зьмесціва шарыка ўзрастала ў тысячы разоў (літар вады з такой шчыльнасьцю важыў бы тону!). Ціск у самай сярэдзіне дасягаў більёна атмасфэраў. У такіх умовах паміж ядрамі дэйтэрыю распачыналася рэакцыя сынтэзу. Уся экспэрымэнтальная ўстаноўка, у якой “запальваўся” цяжкі вадарод, была таннай і зьмяшчалася на пісьмовым стале. Гэта велізарны прагрэс у параўнаньні з ранейшымі прыстасаваньнямі памерам з добры будынак і коштам у сотні мільёнаў даляраў. Аднак кошт току, спажыванага лазэрам, усё яшчэ ў шмат разоў перавышаў магчымыя запасы энэргіі, якія дае сынтэз. Каб баланс стаўся станоўчым, дэйтэрыевыя шарыкі трэба разагрэць да 100 млн. градусаў.

Што ж рабіць? Пачакаць, пакуль сканструююць яшчэ больш магутныя лазэры, або... знайсьці спосаб падагрэць сьціснуты вадарод? Менавіта гэтым шляхам пайшла брытанска-японская група фізыкаў з унівэрсытэту ў Осацы.

У ролі грэлкі фізыкі скарысталі дадатковы лазэр магутнасьцю ў пэтават, які ўключаецца ў момант найбольшага сьціскання. Выпраменьваньне трапляе ў самую сярэдзіну шарыка праз маленькую варонку з золата. Такі імпульс цалкам можа запусьціць тэрмаядравую рэакцыю ў цэнтры шарыка.

“Гэта набліжае нас да танных прамысловых установак, у якіх рэакцыі сынтэзу будуць запускацца лазэрам”, — пішуць фізыкі. Магутнасьці сёньняшніх лазэраў для гэтага стае.

# Вераб'і недаядаюць

**Вераб'і могуць апынуцца на мяжы выміраньня. У Заходняй Эўропе іх колькасьць зьмяншаецца на вачох. Цягам апошніх 20 гадоў у ваколіцах Гамбургу гэтых птушак паменела напалову, у Вялікабрытаніі вымерла 10%.**

Што прыводзіць да выміраньня? Гэта небясьпечная тэндэнцыя ці звычайныя пэрыядычныя ваганьні? Брытанскія арнітолагі назіралі за чатырма невялікімі папуляцыямі вераб'ёў на поўдні Англіі. Адна зь іх за 30 гадоў зьменшылася на 80%: ад 150 да 35 здольных да размнажэньня параў. Гэтую папуляцыю навукоўцы вырашылі падкармліваць узімку (ад лістапада да сакавіка). І за 11 гадоў колькасьць птушак, якім удалося перазімаваць, вырасла на 100%. “Недахоп харчаваньня ўзімку — галоўная прычына выміраньня вераб'ёў”, — робіць выснову брытанскія арнітолагі. Уплываюць і некаторыя зьмены ў сельскай гаспадарцы: перанос тэрмінаў высяваньня збожжавых зь вясны на восень, пабудова збожжасховішчаў, недаступных для птушак.

Паводле сьведчаньня выканаўчага дырэктара Грамадзкага аб'яднаньня “Ахова птушак Беларусі” Аляксандра Вінчэўскага, у нашай краіне рэзка зьмяншаецца толькі папуляцыя вадаплаўных птушак (напрыклад, шэрай качкі) — асабліва на Палесьсі, на занядбаных тэрыторыях былых рыбгасаў. Прычына — нястача харчаваньня ў недагледжаных вадаёмах.

Разам з тым, ёсьць і відавое павелічэньне: у сувязі з глябальным пацяпленьнем клімату на поўдні краіны зьявіліся сырыйскі дзяцел, жоўтая чапля ды іншыя, раней не заўважаныя ў Беларусі птушкі.

# Фтор мацуе зубы, псуе нэрвы



**Бэльгійскія ўлады маюць намер забараніць продаж жуек, ляндрынак і пігулак, якія ўтрымліваюць злучэньні фтору. Надмернае ўжываньне прэпаратаў з гэтым элементам можа выклікаць расстройствы нэрвовай сыстэмы, а таксама спрыяць разьвіцьцю астэапарозу, аслабленьню костак.**

Гэтая пастанова не закране продажу папулярнай ва ўсім сьвеце зубной пасты з фтарыстымі злучэньнямі, якая бароніць зубы. Забарона пачне працаваць у канцы жніўня. Бэльгія чакае, што да яе ў хуткім часе далучацца і іншыя краіны Эўразьвязу.

**Матэрыялы паласы падрыхтавалі Сяргей Санько, Аркадзь Шанскі. Пры падрыхтоўцы выкарыстаныя матэрыялы *“Gazeta Wyborcza”*, *“Nature”*, *“New Scientist”*, *“Scientific American”***



# Восень польскай культуры

Беларусь 2002

**Для большасьці беларусаў польская культура — гэта Марыля Радовіч, “Чатыры танкісты і сабака” і “Чырвоныя гітары”. У інтэлігенцыі Польшча асацыюецца з музыкай Кшыштафа Пэндэрэцкага, фільмамі Кісьлёўскага і Занусі, відэаартам. Сёлета ў нас будзе магчымасьць пашырыць гэтыя веды. Цягам трох восеньскіх месяцаў у адзінаццаці беларускіх местах — Менску, Берасьці, Горадні, Магілёве, Кобрыні, Заслаўі, Фаніпалі, Глуску, Чэрыкаве, Івянцы і Ракаве — пройдзе фэстываль “Восень польскай культуры”.**

Адно з самых цікавых фэстывальных мерапрыемстваў — навуковая сэсія “Ў краіне Вялікай мядзьведзіцы”, прысьвечаная творчасьці Сяргея Пясэцкага — пісьменьніка, кантрабандыста з Ракава, агента польскай дэфэнзывы, пра якога “НН” пісала ў №11 за 2002 г. Сэсія, прысьвечаная Пясэцкаму, адбудзецца 15 кастрычніка ў Менску. Месца удакладняецца. Арганізатары сумесна зь Міністэрствам культуры заплянавалі таксама навукова-практычныя сэмінары і канфэрэнцыі, майстар-клясы для маладых мастакоў і актораў.

## Тэатр

Аднак асноўнае месца ў фэстывальных плянах займаюць мастацкія імпрэзы. 15 верасьня ў Берасьці тэатр “К-2” з Уроцлава пакажа **спэктакль Ежы Ясіньскага “Зорка”**, паводле п’есаў славутага драматурга Гельмута Кайзара “Зорка” і “*Paternoster*”. Галоўная гераіня — былая тэатральная зорка, якая на парозе сьмерці шукае адказаў на самыя істотныя пытаньні чалавечага жыцьця. Дзея разгортваецца ў цеснай прасторы вакол інваліднай каляскі. Гледачы ўбачаць сапраўдную высокую трагедыю, увасобленую сьціплымі сродкамі.

18 верасьня ў Берасьці на плошчы Леніна і 21 верасьня ў менскім парку імя Горкага адбудзецца **вулічны спэктакль “Кармэн Фунэбрэ”** рэжысэра Паўла Шкотка ў пастаноўцы тэатру “Бюро падарожжаў”. Гэты вандроўны тэатар — адзін з найцікавейшых мастацкіх калектываў Польшчы. Спэктакль “Кармэн Фунэбрэ” паўстаў пад уражаньнем этнічных канфліктаў і вайны ў Босьніі. У 1995 г. ён атрымаў першую прэмію ў намінацыі “Экспэрымэнтальны тэатар” і ўзнагароду крытыкаў на Міжнародным фэстывалі мастацтваў у Эдынбургу.



Яшчэ адна прыкметная імпрэза — **вечары Польскага тэатру танцу “Познанскі балет”** (20 і 21 кастрычніка, Менск, Опэрны тэатар). Мастацкі кіраўнік “Балету” Эва Выціхоўская стварыла свой уласны тып танцавальнага тэатру, у якім спалучаецца сучасная харэаграфія, авангардная музыка, драматургія і мастацтва відэаарту. Цягам двух вечароў мы ўбачым спэктаклі “Танга з лэдзі М.”, “Ужо зьмяркаецца”, “Цішыня дрыготкіх далоняў” і “*WO-MAN* у таматах”.




26 кастрычніка ў Гарадзенскім тэатры лялек адбудуцца міні-гастролі люблінскага “*Prowisorium i Kompania Teatr*”. Летась менчукі маглі пабачыць іхны спэктакль “Фэрдыдурка” паводле Вітальда Гамбровіча. Сёлета тэатар плянуе паказаць **“Сцэны з жыцьця Сярэдняй Эўропы”**. Паводле сваёй задумы і стылістыкі гэты спэктакль крыху падобны да “Фэрдыдуркі”.

## Музыка

26 верасьня ў Парк-клюбе “Менск” (парк Чэлюскінцаў) адбудзецца **сумесны канцэрт NRM, Яцака Клейфа, а таксама гуртоў *“T.Love”* і *“Piżama Porno”***. Яцак Клейф — вядомая фігура на польскай музычнай сцэне. Ягоны любімы жанр — сатырычныя песьні для эстрадных тэатраў-кабарэ. “*T.Love*” цяпер адзін з найлепшых польскіх гуртоў. Сынгл каманды “*Nie, nie, nie*” (назва — акурат прыпеў з крамаўскай “Стэфкі”) з паўгоду займаў першыя радкі ў польскіх гіт-парадах. “*Piżam’у Porno*” беларусы маглі чуць на “Басовішчы-2001”.

4 кастрычніка ў менскім Доме дружбы і 5 кастрычніка ў Гарадзенскім тэатры лялек адбудзецца **канцэрт аўтарскай песьні Станіслава Клявэ**. Гэты артыст, як і Яцак Клейф, выйшаў з сатырычных студэнцкіх кабарэ 1970-х. Ягоныя песьні крыху падобныя да песьняў беларускага барда Міхаіла Валодзіна, што зьехаў у ЗША.




19 кастрычніка ў Канцэртнай залі Беларускай філярмоніі адбудзецца **канцэрт-спэктакль “Аўдыенцыя III”** (музыка і тэкст Багуслава Шафэра). Спэктакль складаецца з 18 кароткіх сцэнаў, у якіх разыгрываюцца разнастайныя аспэкты ўзаемаадносінаў паміж мужчынам і кабетай. Акторам дапамагае выдатны камэрны гурт *“Muzyka Centrum Ensemble”* з Кракава.

Ня будуць забытыя і прыхільнікі клясычнае музыкі. 11 лістапада ў памяшканьні тэатру імя Горкага адбудзецца **канцэрт музыкі Станіслава Манюшкі і паказ фільму-опэры “Галька”**. А 30 лістапада, у апошні дзень фэстывалю, у Беларускай філярмоніі выступіць **легендарны джазавы трубач Томаш Станько**, адзін зь піянэраў эўрапейскага *free*-джазу, якому ў гэтыя дні спаўняецца 60 гадоў.

## Кіна- і фота-

26 верасьня ў Менску ў Доме дружбы адбудзецца беларуская **прэм’ера стылёвага польскага фільму “Прывітаньне, Тэрэска!”**. Чорна-белая стужка, зробленая ў дакумэнтальнай манеры, апавядае пра жыцьцё сучасных падлеткаў. Галоўныя ролі рэжысэр Робэрт Глінскі даручыў дзецям “з вуліцы”, яны фактычна граюць самі сябе. Дзяўчынку на галоўную ролю ён шукаў цягам году — сьпярша ў акторскіх школах, потым у дзіцячых дамох. Там яму і трапілася 16-гадовая Аляксандра Гетнэр, якая з раньняга дзяцінства мела крымінальныя схільнасьці. Фільм прайшоў зь вялізным посьпехам, Аляксандра Гетнэр умомант сталася славутасьцю, але неўзабаве трапіла ў вязьніцу за кватэрны крадзеж.

А 28 верасьня ў менскім кінатэатры “Масква” можна будзе пабачыць **фільм “Дапаўненьне” Кшыштафа Занусі**. Гэта другая частка кінастужкі “Жыцьцё як сьмяротная хвароба, якая перадаецца палавым шляхам”.

12 кастрычніка чакаецца беларуская **прэм’ера фільму Ежы Кавалеровіча *“Quo Vadis”*** паводле Сянкевіча. Гэта самы дарагі праект у гісторыі польскага кінэматографу — ягоны дакладны кошт аж дагэтуль трымаюць у сакрэце. Прэм’ера фільму адбылася 14 верасьня 2001 г. Цягам першых двух дзён яго ўбачылі 305 тыс. гледачоў, а да канца году — 4,2 млн.




Аматарам выяўленчага мастацтва арганізатары фэсту могуць прапанаваць хіба фотавыставу **“Польскі павільён на 47-м Біеннале ў Вэнэцыі”**, якая адкрыецца 14 кастрычніка. Аўтар — **Лявон Тарасэвіч** — абяцае асабіста прыехаць на вэрнісаж.



У часе прэсавай канфэрэнцыі, прысьвечанай пачатку фэстывалю, арганізатары яшчэ ня мелі пэўнасьці зь месцам правядзеньня некаторых ягоных імпрэзаў. Удакладніць гэтае, а таксама іншыя пытаньні можна праз тэлефон Польскага інстытуту ў Менску 220-95-81.

**Юлія Андрэева**

# Кнігі поштай

| Назва | Цана |
|---|---|
| **ARCHE-Пачатак** 2000, №9 “Мэдыцына” | **1500 р.** |
| **ARCHE-Пачатак** 2001, №5 “Украінскі нумар” | **3500 р.** |
| **ARCHE-Скарына** №№ 2000-6, 2000-8, 2001-1, 2001-3, 2001-4, 2001-6 | Па **1000 р.** |
| **ARCHE-Пачатак** 2002, №1. 184 с. | **1500 р.** |
| **Vostraja Brama 0: ГЛЁБУС Адам.** “Post Scriptum”. 176 с. | **3000 р.** |
| **Vostraja Brama 1: БЫКАЎ Васіль.** “Пахаджане”. 192 с. | **3000 р.** |
| **Vostraja Brama 3: ЛУКАШУК Аляксандар.** “У фіялетавай ночы вугал крыла”. 160 с. | **3000 р.** |
| **Vostraja Brama 4: БАРТОСІК Зьміцер.** “Чорны пісталет”. 240 с. | **6000 р.** |
| **Vostraja Brama 5: ГЛЁБУС Адам.** “Браслаўская стыгмата”. 192 с | **3000 р.** |
| **АДАМОВІЧ Алесь. Vixi.** | **11200 р.** |
| **АДАМОВІЧ Славамір. Турэмны дзёньнік.** Дакумэнты, дзёньнікі, вершы 160 с., цьвердая вокладка. | **3800 р.** |
| **АСТРАВЕЦ Сяргей. Цэнзарскія нажніцы.** 546 с. | **4000 р.** |
| **БАБКОЎ Ігар. Адам Клакоцкі і ягоныя цені.** 110 с. Гэтая кніга — кампэдыюм усяго таго, што было створана аўтарам на працягу апошніх 10 гадоў | |
| **БАБКОЎ Ігар. Герой вайны за празрыстасьць.** 92 с. | **2100 р.** |
| **БАШУРА Міхась. Паліваньне на мух са шлянга.** 64 с | **1000 р.** |
| **Беларуска-расейская інтэграцыя. Аналітычныя артыкулы.** 424 с. Пад рэдакцыяй Валера Булгакава. | **3000 р.** |
| **Беларускі малітаўнік.** 784 с., цьвёрдая вокладка. Укладзены а.Аляксандрам Надсанам, выдавецтвы “Божым шляхам” (Лёндан) і “Сафія” (Полацак). Малітвы на кожную пару, на кожны дзень. | **5000 р.** |
| **Біблія. Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету** ў беларускім перакладзе Васіля Сёмухі. 1536 с., цьвёрдая вокладка. | **17000 р.** |
| **Беларуская палітычная сыстэма і прэзыдэнцкія выбары 2001 г.** 480 с. | **3000 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 4. Сшытак 1-2(6-7).** 318 с. Часопіс | **2100 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 5. Сшытак 2 (9).** 692 с. Часопіс | **2100 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 7. Сшытак 1 (12).** 302 с. Часопіс | **2100 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 7. Сшытак 2 (13).** 622 с. Часопіс | **2100 р.** |
| Біб-ка БГА 3: **БЕЛЫ Алесь. Хроніка Белай Русі.** 160 с. | **4200 р.** |
| Біб-ка БГА 9: **ТУМАШ Вітаўт. Выбраныя працы.** 246 с. | **3500 р.** |
| Біб-ка БГА 10: **ЮРЭВІЧ Лявон. Літаратурны рух на эміграцыі**. 244 с. | **4200 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.15: УЛАШЧЫК Мікалай. Выбранае.** 608 с. | **3800 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.16: КАРСКІ Яўхім. Беларусы.** 640 с., цьвёрдая вокладка. | **4900 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.18: ЦЁТКА. Выбраныя творы.** 336 с., цьвёрдая вокладка. | **3500 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.19: АРСЕНЬНЕВА Натальля. Выбраныя творы.** 592 с | **4700 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.20: Янка Купала. Выбраныя творы.** 640 с | **3900 р.** |
| **Беларускія маршы і песьні.** 62 с. Зборнік патрыятычных песень з нотамі. | **2000 р.** |
| **БЕЛАРУСЬ. Фотаальбом.** 50 с. Аўтар-укладальнік — Дзяніс Раманюк. | **19000 р.** |
| **Быць альбо ня быць сярэднеэўрапейцам.** Сучаснае польскае мысьленьне. 472 с. | **1800 р.** |
| **ГОЛАС КРАЮ** №№2(13)2001, 1(16)2002, 3(18)2002. Газэта. 12 с. | Па **400 р.** |
| **ДУБАВЕЦ Сяргей. Дзёньнік прыватнага чалавека.** 80 с. | **1500 р.** |
| **ДУБАТОЎКА Валянцін. Архіпэляг Сапегаў.** Гістарычныя нарысы. 172 с. | **2700 р.** |
| **ЁРШ Сяргей. “Усевалад Родзька. Правадыр беларускіх нацыяналістаў”.** 36 с. | **1400 р.** |
| **Зямля №,** №1, 2002. 80 с. Гісторыка-культуралягічны часопіс, тэма — эміграцыя. | **4200 р.** |
| **ЗЯНОН. Глёрыя Патрыя.** 350 с., цьвёрдая вокладка. | **24000 р.** |
| **КАВАЛЬ Ян. Генэрал вызвольнага фронту.** 40 с. | **1400 р.** |
| **КУФЭРАК ВІЛЕНШЧЫНЫ** №2 (4) 2001. 195 с. Гісторыка-краязнаўчы і літаратурна-мастацкі часопіс Віленскага краю. | **3500 р.** |
| **КУФЭРАК ВІЛЕНШЧЫНЫ** №3 (5) 2001 188 с | **3500 р.** |
| **МАРАКОЎ Леанід. 100 мініяцюр.** 236 с. Пра жыцьцё, сьмерць і каханьне. | **5900 р.** |
| **МІЛАШ Чэслаў. Скуты розум.** 246 с. Знакамітая кніга нарэшце выйшла і па беларуску з прадмовай аўтара адмыслова да беларускага чытача | **2400 р.** |
| **НАЦЫЯНАЛІЗМ У СЬВЕЦЕ (частка другая)**. 54 с | **1400 р.** |
| **НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПАКЛІКАНЬНЕ.** 24 с. | **1400 р.** |
| **НІСБЭТ Робэрт. Кансэрватызм: мара і рэальнасьць.** 136 с. | **3000 р.** |
| **ПАДБЯРЭСКІ Зьміцер. Саксафон Чынгісхана.** 414 с. Апавяданьні, аповесьць, раман — добрая проза. | **3500 р.** |
| **Паліталёгія. Асноўны курс.** 680 с. | **3600 р.** |
| **ПЕСЬНІ КРАЮ.** Сьпеўнік. 32 с. | **1400 р.** |
| **РАМАНЮК Міхась. Беларускія народныя крыжы.** Цьвёрдая вокладка. | **45000 р.** |
| **САГАНОВІЧ Генадзь. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасьці да канца XVIII стагодзьдзя.** 412 с., цьвёрдая вокладка. | **5600 р.** |
| **САГАНОВІЧ Генадзь. Невядомая вайна: 1654-1667**. 144 с., цьвердая вокладка. | **2800 р.** |
| **СПАДЧЫНА №2002-1.** Часопіс. 192 с. У нумары: Беларуская народная самапомач, міжнацыянальныя дачыненьні ва ўмовах нацысцкай акупацыі і іншыя тэмы. | **2500 р.** |
| Сэрыя “Schmerzwerk”. **БАХАРЭВІЧ Альгерд. Практычны дапаможнік па руйнаваньні гарадоў.** 152 с. | **2100 р.** |
| Сэрыя “Schmerzwerk”: **ВІШНЁЎ Зьміцер. Тамбурны маскіт.** 256 с. | **3800 р.** |
| Сэрыя “Schmerzwerk”: **СІН Ільля. Нуль.** 108 с. | **2100 р.** |
| **СТАНКЕВІЧ Ян. Збор твораў у 2-х тамах.** 1-ы 552 с., 2-гі 586 с. | **9000 р.** |
| **ТОЛКІН Дж. Р. Р. “Хобіт, або Вандроўка туды і назад”.** 264 с. | **5600 р.** |
| **ФРАГМЭНТЫ №6 (1-2’99)** 302 с. Альманах філязофіі, культуралёгіі і літаратуры. | **2400 р.** |
| **ФРАГМЭНТЫ №7 (3-4’99)** 288 с. Тэма: “Беларусь: крытычнае мысьленьне”. | **2400 р.** |
| **ФРАГМЭНТЫ №8 (1-2’00)** 308 с. Тэма нумару: “Ідэя свабоды”. | **2400 р.** |
| **ФРАГМЭНТЫ №9 (3-4’00)** 304 с. Тэма нумару: “Эўропа і яе Іншыя”. | **2400 р.** |
| **ХАРЭЎСКІ Сяргей. “Зьвяры-суайчыньнікі”.** 92 с. | **700 р.** |
| **Хрысьціянскі філязофскі зборнік.** 168 с | **1400 р.** |

Цэны ў каталегу — для Менску. Для рэгіёнаў прадугледжаныя зьніжкі (30% — для распаўсюднікаў і аптовых пакупнікоў, 10% — для прыватных асобаў). Да супрацоўніцтва запрашаюцца таксама выдаўцы, зацікаўленыя ў распаўсюдзе сваёй прадукцыі праз сыстэму “Кнігі — поштай”. Кантакт: **п/с 333, 220050, Менск-50** (БЕЗ пазнакі “кнігі-поштай”); пэйдж.: 289-12-12 аб.116133; e-mail: exlibris@tut.by

Шаноўнае спадарства! Калі дасылаеце замовы, падавайце падрабязныя і дакладныя зьвесткі пра сябе і як мага больш кантактаў (тэлефон, пэйджэр, e-mail) для найхутчэйшага выкананьня вашых замоваў.



музыка

# Джон Ротэн: “Умею зарабляць грошы”

**"The Sex Pistols" у свой час узначалілі панк-рэвалюцыю. Яны проціпастаўлялі сябе канфармізму, які настаў пасьля поўнай ілюзій і расчараваньняў эпохі гіпі. Песьні Джоні Ротэна зьмянілі эстэтычныя каноны мас-культуры — унесьлі ў яе элемэнт культуры панкаў, нікому не патрэбных, занядбаных "дзяцей сьмецьця". Сынгл "Анархія ў Злучаным Каралеўстве" трапіў у хіт-парады нягледзячы на забарону трансьляваць яго па радыё і тэлебачаньні. Кампазыцыя "Божа, барані каралеву", прымеркаваная да 25-годзьдзя караляваньня Лізаветы II, апынулася на вяршыні папулярнасьці, зноў жа нягледзячы на байкот у СМІ.**



**— Ці адчуваеце вы сябе паранейшаму панкам і анархістам?**

— Ніколі не называў сябе панкам. Гэты ярлык начапіла прэса, а калі яна нешта выдумае, зь ёю цяжка спрачацца, а тым больш дамагчыся абвяржэньня. І анархістам я сябе ніколі не адчуваў. Калі ты хочаш зьмяніць сьвет, табе напэўна ня ўдасца зрабіць гэта такім простым спосабам.

**— А вы ў маладосьці хацелі зьмяніць сьвет?**

— Тое, што я рабіў апошнія 25 гадоў, як мага лепш сьведчыць пра мае жаданьні. Калі іншыя сядзелі ціха, я ішоў супраць усяго брытанскага грамадзтва, псаваў жыцьцё істэблішмэнту, за што заплаціў зьняволеньнем. Мне ня трэба тлумачыць, што азначае быць на пярэднім краі змаганьня, мець сваю думку.

**— Ці праўда, што Джоні Ротэн, пасьля многіх гадоў барацьбы з брытанскай грамадзкасьцю, мае клопат на біржы?**

— Я жыву ў заходнім сьвеце, сьвеце грошай, і я не дурны. Я выкарыстоўваю дзеля існаваньня здабыткі капіталізму, як выкарыстоўваў бы і здабыткі камунізму, калі б мне выпала жыць зь іншага боку сьцяны. Я не саромеюся таго, што ўмею зарабляць грошы. Яны даюцца мне цяжкай працай. Кожны пэнс, які я зарабляю, акроплены крывавым потам, бо мне было наканавана нарадзіцца ў галечы. У адным пакоі мусіла туліцца сям'я з шасьці чалавек. Мне невядомыя іншыя такія выпадкі ў Англіі.

**— Але калі вы пачыналі супрацоўнічаць з *"The Sex Pistols"*, вы думалі пра грошы ці ўсё-такі пра музыку?**

— Ні пра адно, ні пра другое. Музыка для мяне — гэта форма шуму, рытму. Калі ўдаецца паўтарыць шум другі раз, ужо можна сказаць, што напісаная музыка.

**— Што вы адчувалі, калі сьпявалі ў 70-я “Божа, барані каралеву ды фашысцкі рэжым”?**

— Гэта была даволі небясьпечная гульня. На лёнданскай вуліцы на мяне напаў гурт маладых раялістаў, адзін зь іх сярод белага дня параніў мяне нажом. Мяне арыштоўвалі. Супраць мяне і маіх калегаў паўставала ўся лёнданская паліцыя, урад найясьнейшай каралевы. І што? Не прайшло і дваццаці гадоў, як брытанцы сталі менш падтрымліваць каралеўскую сям'ю. Я ніколі ня быў ні ў захапленьні ад каралевы, ні супраць яе. Я толькі хацеў, каб яна зарабляла на хлеб, як іншыя. Праблема брытанцаў у тым, што яны надта прывыклі да сваёй імпэрыі, ня хочуць заўважаць, што яна даўно развалілася, любяць усе дэталі жыцьця двара, усе гэтыя плёткі, наагул манархію, толькі ня хочуць за гэта далей плаціць. Вельмі ня любяць падаткаў, лічаць за лепшае пакідаць фунты каля сябе. Гэта тыповы брытанскі фальш. А я кажу: ня хочаш плаціць — не плаці.

**— Чаму Вы пераехалі ў Лос-Анджэлас?**

— Калі ў мяне яшчэ былі сілы заставацца на любай бацькаўшчыне, за чатыры месяцы паліцыя тройчы зьяўлялася да мяне дамоў. Тут дарэчы было б прыгадаць старую ангельскую прыказку: “Мой дом — мая фартэцыя”. Паліцыя яе не шанавала.

**— Вы ня вернецеся ў Англію?**

— Я бываю там час ад часу, гэтага вымагае мая прафэсія, але, напэўна, ніколі ўжо там ня буду жыць. Мне не падабаецца цяперашні ўрад, я лічу, што няма больш кансэрватыўнага палітыка, чым Тоні Блэр. Хоць, наколькі я памятаю, ён узначальвае лейбарыстаў і ішоў на выбары пад іх лёзунгамі.

**— Канец *“The Sex Pistols”* быў трагічны. Сыд Вішэс, шалеючы па нью-ёрскай гандлярцы гераінам, сьпярша забіў яе, а потым учыніў самагубства і зрабіўся адным з “праклятых сьвятых” року...**

— Я быў вельмі ўражаны тым, што сталася з Сыдам. Раней ён быў вельмі добрым чалавекам, выдатным сябрам. Але барацьбу з гераінам мала каму ўдаецца выйграць. Ён дае шмат новых перажываньняў, уражаньняў, але, перш чым ты паспрабуеш зь ім скончыць, ён скончыць з табой. Наркотыкі ня вартыя пекла, якое нясе наступны дзень. Яны прыніжаюць, як і алькаголь.

**— Вы калі-небудзь адчувалі сябе ахвярай шоў-бізнэсу?**

— Тут на першым месцы канкурэнцыя, а яе я асабліва не люблю. Ненавіджу бег навыперадкі, дэманстрацыю сваёй лепшасьці. Таму стараюся не зьвяртаць асаблівай увагі, на першым ці на апошнім месцы ў хіт-парадах мая кружэлка. Важней за ўсё не маніць у музыцы. І мая музыка шчырая. Хоць гэтая рыса ня вельмі цэніцца ў нашым асяродзьдзі.

**— Ці праца ў *"The Sex Pistols"* мела для вас сэнс?**

— Ні ў кога з нас не было надзеі. Мы казалі: “Няма будучыні”, — і гэта была праўда. Варта, зрэшты, удакладніць гэты лёзунг: у нас ня будзе будучыні, калі мы не паклапоцімся пра яе самі. Сьвет ня ўспомніць пра тых, хто ляжыць дагары пузам і чакае цуду.

**— Быў яшчэ адзін памятны лёзунг — “Панк не памёр”. Што вы думаеце пра яго?**

— А ці жыў ён калі? Не прымаю падзелу музыкі на катэгорыі. Найгорш было тое, што людзі, якія называлі сябе панкамі, ня слухалі музыкі, не чыталі кніг. Бяз гэтага немагчыма мець уяўленьне аб сьвеце.

**Размаўляў Яцак Цесьляк,**
***“Gazeta Wyborcza”***

**Ротэн сышоў з *"The Sex Pistols"* у 1978 г., палічыўшы, што гурт стаўся часткай музычнага істэблішмэнту. У тым самым годзе Ротэн заснаваў каманду *"Public Image LTD" ("PIL")*. У тэкстах ён працягваў нападаць на мяшчанства, клір, армію, хоць паступова зноў трапляў у вір шоў-бізнэсу. Перасьледаваны брытанскай паліцыяй, Джоні пакінуў Англію і пераехаў у ЗША. Ён пракамэнтаваў гэты факт у характэрным для сябе стылі: "Калі яны чарговы раз прыйшлі да мяне ў хату з сабакамі і напалохалі майго ката, я падумаў, што годзе зьдзекаў з жывёлы, а магчыма, і зь людзей". Праз пэўны час ён вярнуўся ў *"The Sex Pistols"*. Цяпер дзеліць свой час паміж гэтай групай і *"PIL"*.**



паэзія

# Славамір Адамовіч



## Я памятаю

Майму каханьню да N.

У мяне, я мушу прызнацца,
на лічбы памяць благая,
але праз мільён экзальтацый
праходзячы, я памятáю,
я пáмятаю дыханьне
тваё і твае вочы,
і шэпт гарачы каханьня,
і днём гэты шэпт,
і ноччу;
я памятаю, што вусны
пахнуць твае душыцай,
што сьмех твой, крыху
распусны,
быў чутны мне і ў вязьніцы;
я памятаю: балюча
любіць жанчыну чужую
і ведаць, што немінуча
трэці гэта адчуе,
адчуе, што вусны жончыны
зьмянілі пругкасьць і водар
і межы ягонай вотчыны
пяройдзены кімсьці з гонарам;
я памятаю, што грэшны
і ад нараджэньня бязбожны,
але залатыя вершы
мне сьпяліць, быццам збожжа;
я памятаю, што іншыя
перш за ўсё забываюць:
напрыклад, адкуль
яны выйшлі
і што пасьля вырабляюць;
я памятаю, што *нельга забыць*, як пісаў Валодзя,
і што ня ў іншым, а ў гэтым
народжаны мы народзе;
я памятаю: нічога
нельга здабыць без ахвяры,
бо толькі цяжкая дарога
прыводзіць да сьветлай мары.

**12 жніўня 2002 г.**

# АБРАЗКІ і абрэзкі

**Лета — пара ляноты** і млявасьці, мёртвы сэзон для думаньня і пісаньня. Ня ведаю, як выжывалі людзі ў Ізраілі ці Каліфорніі, а для мяне дык і беларускае лета было зацяжкім. Калі ад сьпякоты плавяцца мазгі, цела “купаецца” ва ўласным поце, а стрэлка разумовай актыўнасьці падае да нуля, адзіны паратунак — куды-небудзь зьехаць. У дарогу, хутчэй, у дарогу!

**Польскія дарогі** надзіва вузкія і пакручастыя, амаль ня маюць узбочын. Ня ў прыклад беларускім, хоць і ня дужа роўным, затое больш прасторным, з шырокімі, разлогімі ўзбочынамі, па якіх часам можна ехаць як па шашы. Напэўна, такія ж і характары: беларус просты, шыракадушны і нетаропкі, у выпадку чаго зьедзе і на ўзбочыну, каб даць дарогу “пану” ці “гаспадзіну”. А паляку зьяжджаць няма куды, таму і гоніць па сваім зьвілістым шляху, сьпяшаецца... Напэўна ў Эўразьвяз, дзе дарогі яшчэ вузейшыя, а гонкі ў будучыню яшчэ больш імклівыя.

**Шаша ад Берасьця да Варшавы** густа абсаджаная новымі крамамі, складамі, аўтамайстэрнямі, запраўкамі, рэклямнымі спарудамі... Ствараецца ўражаньне, што трапіў у гіганцкі супэрмаркет пад адкрытым небам. Толькі за Варшавай душа беларуса супакойваецца: зноў палеткі, лугі, старыя хутары і ня вельмі дагледжаныя вёскі. Расьце бульба, пасьвяцца каровы, у садах абсыпаюцца яблыкі...

**Галоўнае багацьце варшавякаў** — ня шэрыя будынкі XX ст., не бліскучыя сучасныя хмарачосы і нават не дэкаратыўныя кварталы адноўленага Старога Мяста, а варшаўскія паркі. Аднавіць замак, адрэстаўраваць храм, пабудаваць гіпэрмаркет можна за некалькі гадоў, а каб стварыць такі парк, як Лазенкі альбо Вілянаў, і сотні гадоў замала. Ня самая відавочная, але велізарная страта для Беларусі — зьнікненьне паркаў і паркавай культуры XVIII—XIX ст.



**Малады ружавашчокі мясьнік у Мальбарку**, пачуўшы ад пакупнікоў беларускую мову, нечакана выгуквае: “Беларусь?! Лукашэнка — гуўна!” Робіцца няёмка і сорамна: як не круці, а гэты Лукашэнка — чалавек наш, і вырашаць, г. ён ці не г., справа наша, беларуская.

**Калі ў мэтраполіі Беларушчына больш жывіцца з каталіцкіх асяродкаў**, дык на Беласточчыне трымаецца толькі дзякуючы праваслаўю. Мо таму і праваслаўе тут не закасьцянела-маскоўскае, а больш жывое і рухомае. Яскравы прыклад — царква ў Гайнаўцы, дзіўны сплаў грэцкіх і старарускіх традыцыяў з сучаснымі архітэктурнымі формамі і цікавымі інтэр'ернымі вырашэньнямі. Ці хутка нашы царкоўнікі адважацца на такія сьмелыя праекты? Пэўна, не раней, чым вызваляцца з абдымкаў “трэцяга Рыму”.

**Васіль Аўраменка, Магілёў**

# Жывы голас незалежнай Беларусі

**З 1 кастрычніка "Белпошта" зноў падвышае на 38% тарыф на дастаўку недатаваных зь бюджэту, г.зн. незалежных, выданьняў.** Гэта азначае, што цана газэты пры продажы ў розьніцу, праз шапікі "Белсаюздруку" зноў вырасьце. Хоць ужо цяпер распаўсюд нам абыходзіцца даражэй за выраб газэты. Падпіскаю газэта абыходзіцца таньней. Падпісацца на месяц каштуе 1618 рублёў на ўсіх аддзяленьнях пошты і ў шапіках "Белсаюздруку". Індэкс 63125. Менчукі могуць падпісацца і на пэўны шапік "Белсаюздруку", каб забіраць выданьне ўжо ў чацьвер.

"**НАША НІВА**" — гэта легенда беларускага друку. "**НАША НІВА**" — гэта 16 старонак інфармацыі і камэнтароў пра падзеі ў Беларусі і сьвеце штотыдня, гэта паўнакроўная беларуская культура, гэта жывы голас незалежнага беларускага грамадзтва. Аўтары і чытачы "**НАШАЙ НІВЫ**" разам ствараюць краіну.

"**НАША НІВА**" друкуе сотні карэспандэнцый зь Беларусі і з-за мяжы. У газэце вы знойдзеце хроніку і аналіз апошніх падзеяў у Беларусі і сьвеце, журналісцкія расьсьледаваньні, агляды культурнага жыцьця, літаратуразнаўчыя і культуразнаўчыя артыкулы, вершы, апавяданьні ды эсэ прызнаных беларускіх майстроў слова, пераклады іншамоўных аўтараў. Гэта сапраўдная трыбуна для чытачоў — усіх сумленных і руплівых беларусаў сьвету.

## Дык падпісвайся!



## Сабачыя гісторыі

**Адзін сабака зь Менску напісаў** у вёску ліст: "Мілы дзядуля, забяры ты мяне адгэтуль. Няма ўжо ў мяне моцы тут жыць..." А Граждан напісаў дысэртацыю *"Польза мухи в развитии сельского хозяйства"*.

**Адзін сабка вёз** з поля мех бульбы. Яго дагнаў на "Запарожцы" Граждан, спыніўся, дастаў газэту і зачытаў: "Ураджайнасьць у гэтам гаду павінна быць 350 цэнтлераў. А інакш прыдзецца прадаваць танкі. Асабліва будзьце бдзіцельнымі ва ўрэмя ўборкі карняплодаў..."

**Адзін сабака араў** гарод. За плотам стаяў Граждан і, калупаючы ў носе, камандаваў: "Бяры глыбей! Плуг трымай роўна! Каня паганяй дубцом! Жонцы скажы, каб рыхтавала тайную вячэру!"

**Адзін сабака лавіў** рыбу. Граждан сядзеў побач і лічыў, колькі сарвалася.

**Аднаму сабаку далі** на "Дажынках" ганаровую грамату. Граждан плакаў і крычаў на дзяцей: "Вучыцеся езьдзіць на камбайне, а то пойдзеце на завод гайкі круціць!"

**Адзін сабака верыў** у Бога. Граждан верыў у сусьветную рэвалюцыю і рыхтаваўся да нямецкага палону.

**Адзін сабака ў Дзень беларускай вайковай славы запаліў** у храме сьвечку. Граждан падпаліў калгасны стог і, выклікаўшы хуткую дапамогу, сказаў: "Я ж гаварыў, што ад іскры ўвазгарыцца пламя..."

**В.Ш.**

## прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Зычу маленькай Рагнедзе Яршанцы** сьветлай, шчасьлівай долі. Бабуля Рагнеда

**Ганначка!** Віншую з 15-годзьдзем! Зычу шчасьця, каханьня і посьпехаў ва ўсіх справах! Ліда

**Віншую ўсіх беларусаў**, а ў прыватнасьці сп.Лютынскага, з угодкамі Аршанскае бітвы. Усевалад Сьцебурака

**Дзякую асабіста Ягору Рыбакову** і супрацоўнікам каналу "Культура" за добрыя перадачы. Раіса

**Пробашчу аршанскага касьцёлу** Сьв.Язэпа ксяндзу Яраславу Хыбзу, якога часова пераводзяць у Польшчу, жадаем плёну на новым месцы і хуткага вяртаньня ў Беларусь. Мы будзем Вас чакаць, ксёнжа Яраслаў! Беларускія патрыёты з Воршы і Віцебску.

### ідэі

**Змаганьне за незалежнасьць** Беларусі пачыналася і працягваецца ў Курапатах! Ангеліна Масюта

**Мой супраціў** расейскай акупацыі: купляю прадукты і прамтавары, выробленыя ў Беларусі, ці ў Польшчы, ці ў Чэхіі. Толькі не расейскія! Ангеліна Масюта

**Літаратурныя чытаньні** плянуецца правесьці 8 верасьня а 12-й на пл.Якуба Коласа ля помніка. Пададзена заяўка. Вольга Кананові́ч

**Сабакам** можаш ты ня быць, гражданам жа быць абавязан. Раіса

**Пакуль жыве** трасянка — жыве Беларусь. Раіса

**Хочаш**, каб твой народ паважалі — сам паважай яго. З каго сьмеяцеся? Зь сябе сьмеяцеся. Raisa

**Сьвядомасьць** і прыхільнасьць трэ прывіваць павагай і любоўю да бліжняга, а не насьміхацца Раіса

**Нельга аддаваць** сілы злу і пры гэтым пажынаць дабро. Raisa

**Скончыць інтэграцыю** даволі проста — трэба зачыніць АП "Інтэграл". Супрацьсаюзны антысаветчык

### кантакты

**Разьюшанаму заўзятару**. Выглядае, што месца кіраўніка беларускага спорту пакуль занятае. А вядучым спартовай рубрыкі ў "НН" хацеў бы бачыць чалавека, больш дасьведчанага ў гэтай справе, чым я. Старыкевіч

**Пакуль не студэнт** вельмі ж хоча на дурніцу кампутар альбо мабілу (ці грошы на іх набыцьцё). Прапановы дасылаць на адрас: а/с 92, 247760, Мазыр-7



**Сайт пра Лепельскае возера** і Лепельшчыну. http://lepel-lag.by.ru

**Рыхтуецца сайт** пра возера Сялява. Запрашаем да супрацоўніцтва. Т.: 211-85-85, аб.1976; alehiv_st@tut.by

**Фальклёр-тэатар "Госьціца"** Нацыянальнай Белтэлерадыёкампаніі праводзіць набор вакалістаў, танцораў, канцэртмайстраў (юнакоў і дзяўчат). Зьвяртацца з 3 да 7 верасьня з 18-й па адрасе: вул.Камуністычная, 6. Т.: 236-60-53, 236-68-43

### кватэра

**Шукаю** кватэру ў Менску! Аднапакаевую, можна трохі з мэбляй, абавязкова з тэлефонам. Да 70 даляраў. Пэйдж.: 2070000, аб.16271. Анатоль

**Здыму** аднапакаёвую кватэру (для сябе) з тэлефонам, пажадана ў Фрунзэнскім ці Маскоўскім раёне Т.: 256-35-96 (19.00-22.00)

### кнігі, музыка

**Беларуская музыка** і навіны на сайце http://michelson.by.ru

**Беларускія кнігі** і касэты: e-mail: michelson@tut.by Замовы праз пошту: а/с 62, 230003, Горадня-3. Андрэю Мялешку. Замовы ў Горадні: 73-00-00, аб.127302

**Куплю 1, 2, 3 тамы** Беларускай энцыклапэдыі. Т.: (0222) 45-40-38. Пэйдж.: (0222) 22-53-22, аб.1110. lenin@tut.by

**Прадаю** 2-томнік М.Багдановіча 1928 г. выданьня. Цана — 80 тыс. руб. Т.: 227-72-26, увечары. Віктар

**Рарытэтны самвыдат:** Свабода №1/1990, Экспрэс №1, 2, 3/1989, Навіны №7, 11—12/1989, Студэнцкая думка №4/1989, Івейская крыніца №2/1990, Супольнасьць №2, 3/1989. Т.: (01713) 43-4-56

**Увага!** Старыя нумары "НН": №7, 8/1992, №14, 17, 18/1993, №8—9/1994; №9—34/1997, №2—24/1998, №1—29/1999, №1—18/2000. Т.: (01713) 43-4-56

**Куплю асобныя нумары** часопісу "Спадчына" з 1995—2000 г., "Беларускі гістарычны часопіс" 1995—2002 г. Мікалай. Т.: (у Ваўкавыску): 53-0-88

**Незалежныя часопісы** й кнігі ў Маладэчне. Ёсьць кнігі У.Мартыненкі. Т.: 30-0-20, аб.885

**Куплю Этымалягічны слоўнік** беларускай мовы (т. 2—7), **Гістарычны слоўнік** беларускай мовы (т.1—12, 16, 18), **Беларускую энцыклапэдыю** (т.2—6), **Словаўтваральны слоўнік** беларускай мовы, **Энцыклапэдыю літаратуры і мастацтва Беларусі** (т.1). Т.: 230-91-53

### праца

**Танна распрацуем** сайт любой складанасьці. Т.: 211-85-85, аб. 1976; alehiv_tut.by

**Šukaju pracu** kurjera. Pałovu ci čverć staŭki nie prapanoŭvać! Т.: 221-21-81 (Siava)

**Дапамога** ў выбары кампутара, мадэрнізацыя, усталяваньне праграмаў. Т.: 264-68-90

*Віншуем Алеся Пікулу з Днём народзінаў!*
*Жадаем здароўя, шчасьця і радасьці.*
*Трымайся здаровага ладу жыцьця — ты яшчэ патрэбны Бацькаўшчыне!*
*Сям'я Равякаў*

**У "Нашай Нівы" з 24 чэрвеня зьмяніўся адрас электроннай пошты.** Замест nn@irex.minsk.by лістуйце на nn@promedia.by. Стары адрас ня дзейнічае з 1 жніўня.

## КОШТЫ

**на платныя прыватныя абвесткі (для прыватных асобаў, на старонку 16):**

— да 20 словаў (тэкставы модуль) 228 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) 288 руб.
— афармленая абвестка 144 руб. за кв.см.
— афармленая абвестка — больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету ад 186 руб. за кв.см.

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак. Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: УНП 101115521, "Наша Ніва", Менск, Калектарная 20а, п.2а. Р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ "Белінвестбанк" Менску, код 763.

**НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

**Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537**

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________


**НАША НІВА**
**незалежная газэта**
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| выпускны рэдактар | Сяргей Ёрш |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Чык |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 288-12-32, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@promedia.by**
**On-line: www.nn.by**





8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 2002 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3656.

Нумар падпісаны ў друк 4.09.2002.

Замова № 5615

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а